
Калядкі ў Гайнаўцы ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


З Бацютаў у Дзятлава ➔ 5

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 04 (3167) Год LXII Беласток, 22 студзеня 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# «Zero-85» — апошні раз

**Вось і развіталіся з камандай «Zero-85». На апошнім канцэрце ў клубе «Фама», 14 студзеня. Выйшаў пры тым — першы і апошні іх дыск, нават два — версія акустычная і электрычная, які ўключае ў сябе прыгожа рэдакцыйна падрыхтаваны альбом «Turritopsis nutricula». Уключае ён тэксты беларускага рок-гурта, які дзейнічаў з перапынкамі 15 гадоў, перакладзеныя на польскую і беларускую мовы Алінай Ваўранюк і Мірай Лукшай, аздобленыя неадназначнай графікай, якая ўзаемадзейнічае з тэкстамі. Канцэрт згуртаваў шмат фанатаў з Польшчы і Беларусі. На музыцы гурта выхавалася пакаленне. Як адзначыў лідар гурта Сенька — Юрка Асеннік, гэты завяршальны канцэрт быў таксама і падсумаваннем дзейнасці гурта:**

— Выходзім дастойна. Усё, што мае пачатак, мае канец. Гэты альбом, у пэўным сэнсе, суб'ектыўнае сведчанне месца і часу.

У «Фаме» на развітальным канцэрце выступілі: Сенька (Юрка Асеннік) — вакал, Бартак (Барташ Косма Кваснеўскі) — гітара, другі вакал, Куба (Якуб Кваснеўскі «Кубус») — бубны, і Бобан (Багуслаў Каспэрук) — бас-гітара ды гасцінна Роберт Юрчо (гармонік).



У «Фаму» нахлынуў тлум людзей розных пакаленняў, сяброў, фанатаў, некаторых з дзецьмі, для якіх Сенька з хлопцамі гэта культавая з'ява. На калідорах і ў сенях клуба і на падворку перад кавярняй клубіўся другі канцэрт — людзі пазнавалі адны адных, абдымаліся, успаміналі пра тое, што раней было, а чаго няма, а што можна было б спрабаваць аднавіць. Жарты, анекдоты, таксама калябасовішчаўскія, дзе гурт вёў рэй, а Сенька быў неардынарнай і непакорнай індывідуальнасцю. Заставаўся нейкі сум, як развітанне з уласнай маладосцю, шкадаванне, што былое не вернецца. Што нават бунтарскія словы, якія вырываліся з Сенькавых грудзей, з яго нутра, неяк інакш гучаць. Бо і Сенька з хлопцамі — іншы.



— Цяжка было сабраць усіх. Пісаць альбом — гэта і грошы, і шмат працы. Усё адбылося дзякуючы Дарыяну — ён усіх нас намовіў, усім заняўся, знайшоў грошы. Трэба запісаць і канчаць гісторыю. Гэта нейкі час, які ўжо быў. Мы ў іншым месцы, іншы і я. Гэтыя тэксты цяжка ўжо спяваць. Яны былі вельмі эмацыянальнымі, вельмі абгрунтаванымі ў жыцці. А я ўжо іншы чалавек, у іншым месцы. Няма ўжо нават такой патрэбы, каб так жорстка выступаць, каб крычаць. Вядома, ёсць эмоцыі. Але так жыццё складваецца. А гэта застанецца, так сказаць, у вечнасці.

*не я не той, не ваш! гэта толькі маска,*
*а ня мой сапраўдны твар,*
*не я ня той, ня ваш! маска болей ужо ніколі,*
*не ўрасьце ў мой твар*

спяваў глыбокім, непадробным голасам Сенька, шчыра. Як у той час, калі быў франтменам гэтай культавай рок-групы. Хаця ён змяніўся, як і ўсе, хто з ім выступаў, якіх згарнуў зноў у магутную кучку Дарыян Младзяноўскі. Гэта ён нават і прымусіў, угаварыў рассыпаных па свеце музыкаў, каб скласці кніжачку-дыск — першы і апошні альбом ды даць апошні канцэрт. Акустычны — дзе цікава прагучаў гармонік Роберта Юрчо, а пасля электрычны, вострый, магутны. Можна было з галавой, да мурашак па целе, акунуцца ў свет гукаў, народжаных інструментамі і грудзьмі Сенькі.

Адкуль узялася назву альбома — **Turritopsis nutricula** і спасылка на медузы?

— **Turritopsis nutricula** гэта лацінскі назоў медузы. Калісь у Берлінскім заапарку, стоячы перад круглым акном акварыума, я глядзеў балет гэтых бясплотных істот. Амаль містычнае адчуванне. Прыгажосць у чыстай форме. Дасканалы быт і тэарэтычна несмяротны. Можа быць, гэтак аб'яўляецца імкненне да абсалюту? — пытаецца сам у сябе Сенька.

Гурт спяваў у асноўным на беларускай мове. Калі засноўвалі каманду, вырашылі, што Сенька будзе спяваць на беларускай мове.

— Можа быць, я навязаў хлопцам сваю ўяву «ідэалагічную» ці, магчыма, «светапоглядную» надбудову, але яны сказалі «о'кей», — прызнаецца Сенька. — І я спяваў па-беларуску на працягу гэтых амаль пятнаццаці гадоў. Але не трактую, аднак, нашага іграння як выключна беларускага рока. Наша музыка не мае для мяне нацыянальнага вымярэння. Думаю, аднак, што гэты альбом, верагодна, застанецца ў гісторыі беларускага рока. У альбоме пераважная большасць песень спета па-беларуску, але ёсць таксама адна песня на англійскай, азываецца і ідыш. У тэкстах буклета беларускія тэксты перакладзены на польскую мову. Дарыян шчаслівы, што, нарэшце, будзе дакладна ведаць, што я спяваю. Ён не ведае беларускай мовы, але тлумачыў я яму сэнс тэкстаў, фраза за фразай. Побач з маімі аўтарскімі, асабістымі тэкстамі, у альбоме апынуліся таксама тэксты Уладзіміра Караткевіча, Анатоля Сыса, Веслава Казанэцкага. Гэта вершы пра жыццё, адзіноту, патрэбу ў любові і свабодзе. Калі мы пачыналі, я хацеў спяваць пра тое, чым жыву, пра тое, чым я жыў тады. Мы вельмі розныя, таму я стараўся выбіраць і прыдумваць тэксты ўніверсальныя, з якімі мы ўсе маглі б ідэнтыфікаваць сябе. Краналі мы таксама Беласток, яго карані, гісторыю гэтага горада. У рэшце рэшт, мы далі імя гурту, якое з'яўляецца тэлефонным кодам у Беласток. З іншых тэкстаў — Караткевіч надалей актуальны, Казанэцкі па-свойму таксама, калі піша аб нябачным горадзе. Беласток гэта горад памежжа, культур, ідэй, але і нябачны горад, пазбаўлены памяці. Ён прыгадвае фільмавую дэкарацыю, у ім шмат кажуць аб мультыкультурнасці, а гэта сапраўды можна ўбачыць толькі на рэкламных буклетах. Калісь я казаў пра тое, што зараджаецца фашызм, ды ўсе вакол стукалі сабе ў лоб. Мы мусім гэтаму рабіць процівагу. Кахаць без выключэння. І такое паведамленне мы пасылаем у свет, зачыняючы альбом: на апошняй старонцы вы бачыце рукі складзеныя ў жэсце намастэ. Міру мір.

У кніжачцы-альбоме няма нічога лішняга, кожная рыска значыць важнае.

— Першапачатковая канцэпцыя была такая, каб публікацыя нагадвала малітоўнік, з ілюстрацыямі ў стылі Дзюрэра або Скарыны, з архаічнай тыпаграфікай. Пазнаёміў мяне з Маркам Аляксіцкім. Мы абое бескампрамісныя, калі гаворка пра мастацкае бачанне. Удалося нам стварыць уяву, пад якой абодва падпісваем. Буклет нараджаўся ў маёй галаве на працягу доўгага часу. Канцэптуальная праца, паслядоўная. Трохі такое маё залатое руно, да якога я дайшоў. Гэта не проста зборнік тэкстаў і перакладаў твораў, ці ілюстраваная вокладка для дыскаў. Але хай кожны інтэрпрэтуе гэты альбом па-свойму.

Як зайгралася і адчулася зноў разам?

— Рушыла кроў у жылах! Скокнуў адрэналін. Такі launch маментальны моцны ўдар. Хаця таксама мы змагаліся адзін з адным. Але гэта каштавала таго — гэты альбом — 15 гадоў нашага жыцця! Можа і добра, што мы не запісалі гэтага альбома 10 гадоў таму, што мы запісалі яго цяпер, хоць гэта стары матэрыял, зараз — ужо як спелыя людзі. І гэтую сталасць цяпер відаць і чуць. Магчыма, патрэбны быў момант, калі мы перасталі іграць, адпачылі, набралі дыстанцыі, каб узнік гэты альбом? Але хопіць: сустрэліся яшчэ раз, зайгралі, выдалі альбом. Хопіць. Не маю ўжо патрэбы крычаць, не мушу нікому чагосьці перадаваць, даказваць.

А нам застаюцца ўспаміны і слуханне балета абсалюту.

❖ Тэкст і фота **Міра ЛУКША**





# Добрыя дзевяностыя

На постсавецкай прасторы ўстойліва замацавалася выслоўе „ліхія дзевяностыя". Імперскія прапагандысты і настальгуючыя па савецкім саюзе так настойліва далдоняць і заганяюць гэта ў мазгі маладому пакаленню, што ў яго сапраўды можа скласціся ўражанне, нібы ў пачатку дзевяностых рабілася нешта надзвычайнае. Ледзь не апакаліпсіс тады надышоў. Па цэнтральных вуліцах і пляцах гойсалі банды рэкеціраў з аўтаматамі, ля райвыканкамаў чародамі кружлялі прастытуткі, пад крамамі за кожную бутэльку — пустую і парожнюю — біліся алканаўты, а ў барах і на дыскатэках віўся бесперапынным дымам наркатычны кумар. Праўда з гэтага толькі тое, што на абломках і руінах прагніўшай імперыі сапраўды павылазілі многія язвы грамадства, якія раней альбо знішчаліся без разбору, альбо хаваліся і замоўчваліся. Варта ўспомніць хоць бы класічны прыклад маскоўскай алімпіяды, калі ў сталіцы СССР перад спартовымі баталіямі зніклі ўсе бяздомныя, наркаманы, алкаголікі і прастытуткі. Насамрэч гэтыя, так званыя „асацыяльныя элементы", былі вытураны і вывезены з белакаменнай і чырвоназоркавай сталіцы за „соты кіламетр". Так пускаўся прапагандысцкі пыл у вочы, ствараўся ўражанне, што ў саветаў ніякіх заган няма.

На хвалі перабудовы спярша сапраўды было шмат пены і недарэчнасці, аднак гэта быў час, калі дыхалася свабодна, калі можна было пачуць праўду і самому казаць праўду. Цудоўна памятаю, які кантраст чакаў мяне на гістарычным факультэце нашага ўніверсітэта па вяртанні з савецкага войска — першы курс — 1984, другі — 1987 год. Атмасфера змянілася кардынальна. А ў пачатку дзевяностых Савецкі Саюз нарэшце ляснуўся. Для старэйшага пакалення гэта быў пераважна стрэс, злом усяго ладу жыцця, эканамічна стала вельмі цяжка, сістэма ранейшага сацыяльнага забеспячэння дала збой. А вось для маладых і людзей сярэдняга веку адкрыліся межы, рынкі і прынцыпова новыя магчымасці. Не было тады хіба такога чалавека на нашай прасторы, хто не паспрабаваў бы сябе ў гандлі, нейкай куплі і перапродажы. Найбольш ініцыятыўныя і смелыя насіліся па ўсім свеце — лятаці ў Кітай, Турцыю, іншыя краіны, валаклі вялізныя цюкі з таварам, станавіліся на рынках і гандлявалі, гандлявалі... Іншыя скіраваліся ў Заходнюю Еўропу, пераганялі адтуль патрыманыя, але яшчэ дастаткова якасныя машыны, паступова зміняючы аўтамабільны рынак краіны. У абедзвюх катэгорый было нямала праблем на шляхах і дарогах — траплялся махляры, рэкеціры, іншага кшталту бандыты, але людзі неяк давалі гэтаму рады. Спакваля яны багацелі, куплялі сабе лепшыя машыны, будавалі дамы. Гэта тады, менавіта ў пачатку 1990-х гадоў, гэтыя працавітыя людзі маглі здабыць сабе першасны капітал, станавіліся ўласнікамі і стваралі свой уласны дабрабыт. Гэта іх шматлікія і шыкоўныя катэджы стаяць зараз на ўскраінах вялікіх гарадоў. Гэтыя мікраараёны называлі ў свой час „полем цудаў" — і сапраўды дамы там раслі як на дражджах. Гэта быў залаты час для індывідуальных, дробных і сярэдніх прадпрымальнікаў, калі людзі маглі зарабіць і даць зарабіць іншым, ствараючы новыя працоўныя месцы. Дзяржава ім не перашкаджала тады, мела з іх падаткі і таксама патроху станавілася на ногі.

Гэта быў залаты час і для інтэлектуальнай эліты. Ствараліся галерэі, ставіліся помнікі, без усялякай цэнзуры пісаліся і выдаваліся цікавыя кніжкі, праходзілі навуковыя канферэнцыі, ішло адраджэнне беларускай мовы і культуры, беларусы ўсяго свету знаёміліся і гуртаваліся. Высілкі разумнейшых людзей з грамадства і з дзяржаўных структур зліваліся ў адно — што патроху давала свой плён. І гэта было ўсё ў нашай Беларусі ў пачатку нібыта „ліхіх" дзевяностых. Безумоўна, матэрыяльна было цяжкавата, памятаю гэта таксама па сабе. Але была надзея, было святло на далягядзе і была перспектыва. А потым, пасля 1994 года, быў абвешчаны курс „назад у СССР", быў дэклараваны абсурдны „рынкавы сацыялізм" і надоўга надышлі змрок і цемрашальства. Наступіў канец і вольнасці, і культуры, і прадпрымальніцтву. Да гэтага часу не відаць святла ў канцы тупіковага тунэля.

Так што насамрэч „ліхія" дзевяностыя былі добрымі дзевяностымі. І лепшымі ў нашай гісторыі.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Гіперінфляцыя путчу



Пасля дэфляцыі вяртаемся да інфляцыі. Ужо аб ёй мы змаглі забыцца. Мяркуючы па ўсім, цана на цукар павялічылася на 26% у параўнанні з коштамі папярэдняга года. Цукрам я не карыстаюся, прытым не ўмею падсалоджваць. Паўтараю гэтую інфармацыю за СМІ. Я спадзяюся, што адказнымі. Іншыя, ва ўсякім разе, я стараюся не чытаць. Шкада для іх часу. Але што для каго значыць адказнасць? Інакш яе разумеюць браты Карноўскія, яшчэ інакш міністр Блашчыкоўскі, яшчэ інакш прафесар Жаплінскі і яшчэ зусім інакш пан Зёбра. Мне здаецца, што да адказнасці як такой дарвалася не так інфляцыя, як яе выроджаная мутацыя «гіпер»... Ой, запахла тут воцатам і прытхласцю пустых паліц. Але пачнем спачатку ...

У мінулую нядзелю TVP1 выдала дакумент пад загалоўкам «Путч», прытым у часе так званага прэміум-кантэнту. Адразу пасля вячэрніх «Навін», якім на працягу многіх гадоў даспадобы асабліва пажылым гледачам. Справа звязана з апошнімі падзеямі ў парламенце, калі дэпутаты ад ГП і «Навачэснай», у знак пратэсту супраць несправядлівага на іх думку выключэння з парламенцкіх абрад аднаго з іх калег, заблакавалі ўласнымі целамі парламенцкую трыбуну з патрабаваннем вярнуць яго да поўнай функцыі дэпутата. Яго выключэнне наступіла пасля таго, што калі ён звярнуўся да маршалка які прадстаўляе ПіС словамі «каханы пане маршалку». Гэтыя словы аказаліся снежным комам, які каціўся хутчэй і хутчэй з кручы чалавечых слабасцей. Пакрыўджаны незаслужаным каханнем дэпутата маршалак пратэст апазіцыі праігнараваў, праігнараваныя дэпутаты ў далейшым яшчэ больш заперліся перад парламенцкай трыбунай, у выніку далейшая праца парламента была перанесена ў тамбур сейма. Такім чынам у цісканіне і рыначнай мітусні адбылася там дыскусія аб супервbooksажным дзяржаўным бюджэце і палітычна спрэчным «дэзубекізацыйным» законе. У канчатковым рахунку, калектыўна збітых у сенцах і ўчадзелых ад пякельнай серы дэпутатаў, гэтыя два пытанні былі пастаўленыя на галасаванне і пасля вочнага падліку ўсіх паднятых рук прыняты аднагалосна. У той жа час, не вядома, колькі рук належала да дэпутатаў, і колькі да іх асістэнтаў і да іх падобных памочнікаў д'ябла, пра што таксама ўзняла трывогу адсутная ў час галасавання частка дэпутатаў. Але штука ёсць штука, як калісь казалі ў польскай арміі — нават калі б дзве прасціны складваліся з аднаго перадзертага напалам. На вестку аб тakім галасаванні дэпутаты праігнараваныя ў галасаванні запатрабавалі паўторнага галасавання, сцвярджаючы, што такое можа мець месца толькі ў памяшканні, прыстасаваным для галасавання, значыць, у зале пасяджэнняў, а не ў яе сенцах. Але трэба прызнаць, што месца аголенае з велічнасці палачкі, нават такое важкае, як зала пленарных пасяджэнняў польскага сейма, хутка стане падобным на старую клуню, у якой арганізаваны па суботах патанцоўкі ў рытме дыска-пола. Сведчаць аб тым наступныя паводзіны гераічных дэпутатаў, якія блакуючы парламенцкую трыбуну, сумавалі на працягу некалькіх тыдняў самі з сабою і сваім уласным гераізмам. Тым не менш, у дакуменце трансляваным у нядзелю, аўтары прадстаўляюць іх як «путчыстаў», а блакаду залы пленарных пасяджэнняў як спробу путчу — пераваротy.

Старэйшым гледачам, памятаючым пераварот былой ваеннай хунты Пінachэта ў Чылі і яго крывавае падаўленне законнага ўрада Сальвадора Альендэ, сівыя валасы стаюць дыбам на галаве. У той час маладыя гледачы будуць асацыяваць злавеснае слова «путч» з апошнімі падзеямі ў Турцыі. Пад выглядам нібыта пагрозы ліквідацыі ваеннага перавароту дзяржавы, прэзідэнт Эрдаган праводзіць сёння забойныя чысткі ў войску, судовай сістэме, сярод журналістаў і, у выніку, ва ўсім грамадстве. Гэта ў Турцыі. Ці ў Польшчы наступіла спроба перавароту? У парламенцкай зале пасяджэнняў?!.

Я турбуюся аб цане цукру, хаця я не падсалоджваю, ні сабе самому, ні каму іншаму. Яшчэ больш турбуе мяне ціхачом прагрэсуючая інфляцыя. Перш за ўсё, у сферы чалавечай адказнасці. Пасля фільмавага дакумента «Путч» яна набрала гіперінфляцыйнай хуткасці.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Шчодрыя падарункі

Як бачна, Раджджаственскія святы памаленьку набліжаюцца да завяршэння. Яшчэ толькі адсвяткаваць Трох каралёў і адпачываць. З'ява стомленасці святочным цыклам на Падляшшы — справа заканамерная. Падвойны каляндар — грыгарыянскі і юліянскі — фундуе нам месячны цыкл павышанай працы для страўніка і пячонкі. Абарончы імунітэт арганізма слабее і людзі пачынаюць раптоўна хварэць. От табе і святкаванні. Але некаторым гэтых святочных дзён хіба яшчэ замала. Маю тут на думцы польскіх паслоў Сейма, якім, відаць, прымаўка **«czy się stoi, czy się leży, dziesięć tysięcy się należy»** занадта засела ў мазгах. Таму нічога дзіўнага, што некаторыя з іх бачаць свята аж шасці каралёў. Усё ў падвойным відзе. А што ж сабе шкадаваць! Адзін з іх уразіў мяне асабліва, называючы аднаго з каралёў Бельзебубам. Відаць, чартаўшчына надоўга ўкаранілася ў польскім парламенце, бо тое, што зараз там вырабляецца, аж просіцца помсты ад неба. Але зыходзячы з адвечнага прынцыпу, што Бог няскоры, але справядлівы, відаць, адбіранне розуму паслам з'яўляецца тым жа пакараннем. І няхай кампраметуюцца тады перад намі, выбаршчыкамі. Добра, што святочная мітусня не дазваляла людзям аж занадта дакладна адсочваць польскі парламенцкі крызіс, бо ў іншым выпадку продаж заспакаяльных сродкаў у аптэках рэзка б узрасла. Але прызнаюся шчыра, што калі ў адзін вечар паглядзеў я некалькі інфармацыйных праграм на розных тэлеканалах, то каб заснуць, мусіў я каўкнуць снатворную пілюльку. Кубка паранага малака з мёдам было недастаткова, каб трапіць у абдымкі Марфея.

Як штогод не спалася мне і ў навагоднюю ноч, проста шчадруючы з хвалямі Беларускага Радыё Рацыя. За кожным разам, слухаючы віншаванні радыёслухачоў у прамым эфіры можна зрабіць пэўныя высновы наконт нашай меншасці. Абсалютна ўразіла мяне вялікая хваля прывітанняў і пажаданняў ад слухачоў, якія выехалі з Беласточчыны і рассеяліся па ўсім свеце. І віншавалі сваіх родных Кэвіны ды Аляны. Амерыка, Канада, Аўстралія, еўрапейскія краіны сталі домам для тысяч сыноў і дачок Падляшскай зямлі, не гаварыўшы ўжо пра іншыя польскія гарады. Гэта паказвае, што наша ваяводства надалей застаецца адсталым у гаспадарчым плане рэгіёнам у параўнанні з рэштай краіны, калі за працай і хлебам трэба з'язджаць так далёка. Але туга па сваім свеце застаецца ў сэрцах і душах нашых выхадцаў. І як важна яднаца ўсім у такі Шчодры вечар. Таму роля, якую выконвае Радыё Рацыя ў інтэграванні беларускай нацыянальнай меншасці ёсць таксама бясцэнная. А тое, што на падляшскіх састарэлых вёсках дзякуючы радыё можна сябе адчуць менавіта часткай большай грамады, з'яўляецца самым лепшым лякарствам для душы. Таму трэба спадзявацца, што скарачэнне Міністэрствам унутраных спраў і адміністрацыі фінансавых сродкаў на перадачы для беларускай меншасці будзе яшчэ раз перагледжанае і адмененае ў станоўчы бок. Таксама як фінансавая падтрымка заяўленых нашай рэдакцыяй ці іншымі беларускімі арганізацыямі праектаў. Тэрмін апеляцыі на міністэрскія рашэнні мінуў шаснаццатага студзеня дык пэўна неўзабаве пабачым, што з гэтага атрымаецца. Гадамі сродкі, якія ў маштабе краіны выдзяляюцца на ўсе меншасці, скандальна нізкія. Пятнаццаць мільёнаў злотых — гэта сума, якая абсалютна не забяспечвае патрэб і арганізацыйных выклікаў меншасных асяроддзяў. Затое з'яўляецца яблыкам разладу паміж паасобнымі меншаснымі арганізацыямі ці рознымі меншасцямі. У такой сітуацыі старажытны прынцып «divide et impera» можа быць выгадным інструментам у руках міністэрскіх чыноўнікаў. Таму рашэнне наконт падзелу сродкаў прынесла хвалю крытыкі і падазрэнняў у адрас улад. Толькі хтось, хто дрэнна жадае вобразу свайго ўрада, падымае такія неабдуманыя дзеянні. Але пажывем, пабачым, што прынясуць наступныя месяцы ў дачыненнях паміж дзяржаўнымі структурамі і грамадзянамі меншасных нацыянальнасцей і веравызнанняў.

Напэўна справы выглядалі б крыху інакш, калі б на ўзроўні самаўрадаў — ад гміннага па ваяводскі — існавалі нашы прадстаўнікі фармальнага Беларускага выбарчага камітэта. Ёсць яшчэ час, каб аб гэтым сур'ёзна падумаць, бо ніхто не будзе за нас адстойваць нашы інтарэсы. Такая праўда.

**Яўген ВАПА**

# Вялікае калядаванне ў Гайнаўцы



■ Супольна выступілі дзіцячы і маладзёжны хары Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (на здымку дзіцячы хор пад кіраўніцтвам Юстыны Марчук)



■ Лаўрэатам першага месца стала гімназічная група беларускага калектыву «Сунічкі» з Белавежы (на акардэоне падыгрывае Матэвуш Харкевіч)

У хаце маіх бацькоў у Новым Беразове Хрыстовае Нараджэнне славіла ажно 12 груп калядоўшчыкаў. Хаця вёсак, дзе калядаванне ёсць шматлюдным, зараз ужо няшмат, а ў гарадах дзеткі і моладзь рэдка рашаюцца калядаваць па дамах і кватэрах, то традыцыя абвяшчэння Божага Нараджэння не знікае. Перанеслася яна на сцэны дамоў і асяродкаў культуры, што дазваляе шматлікай публіцы ў калядны перыяд выслухаць калядкі ў выкананні калядоўшчыкаў розных узростаў. У гэтым годзе дваццаты раз арганізаваліся Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай, якія ў 1998 годзе ў памяшканнях беліцэя сталі ладзіцца Агульнаадукацыйным ліцэем з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, гайнаўскім аддзяленнем БГКТ і Гайнаўскім домам культуры. З 2003 года калядныя сустрэчы арганізуюцца Дэканальным інстытутам праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы і Гайнаўскім домам культуры ў яго памяшканнях, а суарганізатарамі мерапрыемства выступаюць Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» ў Гайнаўцы і Брацтва праваслаўнай моладзі, якое дзейнічае ў Свята-Троіцкім прыходзе ў Гайнаўцы. Калядное мерапрыемства пераўтварылася з часам у Фестываль «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай», а калі сталі прыбываць на яго калядніcі з Беларусі і нават адзін раз прыехалі калядоўшчыкі з Украіны, калядаванне набыло прыкметы міжнароднага мерапрыемства.

У 2017 годзе Фестываль «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» праходзіў з 10 па 14 студзеня ў Гайнаўскім доме культуры і прынялі ў ім удзел 40 груп калядоўшчыкаў (каля 650 каляднікаў). Мерапрыемству спадарожнічала выстава «Вароты веры. Беларуская іканаграфія і званы XVIII-XIX стагоддзяў», арганізаваная Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве, гайнаўскім аддзяленнем Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія ды Музеем старажытнай беларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (старыя іконы і званы на выставе паходзяць з яго фондаў). Дырэктар музея прафесар Барыс Лазука распавёў пра іконы і званы, а званіў Багдан Бярозкін, кіраўнік аддзялення званароў Мінскага духоўнага вучылішча. Выставу, якая будзе дзейнічаць да 24 студзеня 2017 года, адкрылі старшыня ўправы гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія Люцына Рушук і дырэктар Культурнага цэнтра РБ Міхаіл Рыбакоў.

— Каляднікі падчас Фестывалю «Гайнаўскія сустрэчы з праваслаўнай калядкай» славяць Хрыстовае Нараджэнне і захоўваюць традыцыю калядавання ў святочны перыяд, хаця адбываецца яно на сцэне, а не па хатах. Падчас фестывалю адбываецца інтэграцыя дзетак, моладзі і дарослых калядоўшчыкаў, паколькі калядавалі сёлета асобы ў розным узросце і прыехалі яны з трох паветаў — Гайнаўскага, Бельскага і Беластоцкага. Каляднае мерапрыемства гэта таксама добрая прамоцыя Гайнаўкі і Гайнаўскага павета, — сказаў дырэктар Дэканальнага інстытута праваслаўнай культуры ў Гайнаўцы протаіерэй Павел Стэрлінгаў.

Усе каляднікі атрымалі падарункі, а пераможныя групы калядоўшчыкаў — узнагароды. Групы калядоўшчыкаў заводзіла на сцэну і зводзіла з яе Снягурачка, а падарункі ўручаў Дзед Мароз. Калядныя слуханні адбываліся перад камісіяй, якую ўзначальваў мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч, дырэктар Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі». Калядоўшчыкі ацэньваліся ў катэгорыях дашкольнікаў, вучняў школ, фальклорных груп, прадстаўнікоў дамоў і асяродкаў культуры, іншых груп і прыхадскіх хароў. Слуханні штодзень пачыналіся з выступаў дашкольнікаў. Наймалодшыя дзеткі выходзілі пераапранутыя ў святочныя касцюмы або народныя ўборы і калядавалі з прыгожымі звёздачкамі. Адважна і займальна славілі Хрыстовае Нараджэнне дашкольнікі ўсіх гайнаўскіх самаўрадавых прадшколляў, Самаўрадавага прадшколля № 3 у Бельску-Падляшскім (III месца), Прадшколля імя святых Кірылы і Мяфодзія ў Гайнаўцы і Прадшколля «Red Bus Kids» у Гайнаўцы. Калядаванне поўнасцю на беларускай літаратурнай мове запрэзентаваў беларускі калектыў «Лянок» з Непублічнага прадшколля імя св. Гаўрыіла ў Бельску-Падляшскім. «Лянок» у групе дашкольнікаў заняў першае месца разам з калектывам «Звёздачкі» з Самаўрадавага прадшколля № 5 у Гайнаўцы, а другое месца занялі «Званочкі» з Прадшколля № 3 у Гайнаўцы.

— Дзеткі з калектыву «Лянок» праспявалі дзве калядкі на беларускай літаратурнай мове. Раней прэзентавалі іх падчас Куцці ў садку і ў час калядавання ў Бельскім доме культуры. Каля 30 дашкольнікаў вучацца беларускім песням, калядкам і родным традыцыям у нашым калектыве, якім я апякуюся разам з Іаннай Хількевіч, — праінфармавала Марта Зінкевіч, між іншым дырыжор хору дарослых спевакоў у Прачысценскай царкве ў Бельску-Падляшскім.

У Прадшколлі святых Кірылы і Мяфодзія, якое знаходзіцца ў будынку Гайнаўскага беліцэя, покі займаецца 7 дзетак, але калядавалі яны адважна і атрымалі вылучэнне.

Удала калядавалі і атрымалі спецыяльныя ўзнагароды асобы з абмежаваннямі са Спецыяльнага школьна-выхаваўчага асяродка і Майстэрні працатэрапіі ў Гайнаўцы, дзе спевам вылучаецца Юліта Кічкайла з тамашняга калектыву «Лясныя ноты». Займальна калядавалі дзве групы беларускага калектыву «Сунічкі» — вучні пачатковай школы і гімназіі з Белавежы. Протаіерэй Павел Стэрлінгаў дзякаваў спонсарам каляднага мерапрыемства, сярод якіх былі самаўрадаўцы. Новым спонсарам стаў Бацькоўскі камітэт гайнаўскіх беліцэя і белгімназіі.

— Мы ад імя Бацькоўскага камітэта Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы выступілі да арганізатара сустрэч з прапановай, што мы ўстановім узнагароду аднаму з пераможцаў конкурснага калядавання, — сказала старшыня Бацькоўскага камітэта Люцына Рушук, заадно старшыня ўправы гайнаўскага аддзялення Праваслаўнага брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Падчас гала-канцэрта яна разам з дырэктарам Гайнаўскага беліцэя Яўгенам Сачко ўручыла ўзнагароду лаўрэату першага месца сярод школьных выканаўцаў — гімназічнай групе беларускага калектыву «Сунічкі» з Белавежы, якая выступіла пад акампанемент акардэаніста Матэвуша Харкевіча.

Займальна выступілі таксама калектывы «Звёздачкі» і «Вясёлыя ноткі» (атрымалі вылучэнні) з Непублічнай пачатковай школы ў Арэшкаве. Удала калядавалі тры групы з Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах, якімі з верасня мінула года займаецца Марыя Пашко. Належаць да іх вучні пачатковай школы і гімназіі ў Дубінах ды пачатковай школы ў Новым Корніне.

— Мы выконваем такія калядкі, што спяваліся ў вёсках нашых бабуль, — заявілі Юлія Корх і Юлія Мацюка з ПШ № 2 у Гайнаўцы, якія разам з сяброўкамі ўдала калядавалі ў калектыве «Званкі» ГДК (вылучэнне). Іх апякун Вера Масайла дабавіла, што калектыў «Званкі» хоча перадаць атмасферу колішняга калядавання і калядкі папаўняе размовамі, якія ў мінулым вяліся пад вокнамі хат перад калядаваннем. Калядоўшчыкі выступаюць у цёплай зімовай вопратцы, паколькі калядавалася тады на двары ў халодныя зімовыя дні.

— Нашы вучні з калектыву «Лясныя ноткі» любяць калядаваць. Мы прыехалі сюды перш за ўсё славіць Хрыстовае Нараджэнне, — заявіла музычны кіраўнік калектыву, настаўніца беларускай мовы ў ПШ № 3 у Гайнаўцы Марыя Крук. Дзяўчаты з гэтага калектыву калядуюць таксама перад сямейнікамі і па Гайнаўцы.

Малодшая група Студыі песні ГДК выступіла класна і заняла першае месца. Публіцы і конкурснай камісіі спадабалася таксама выступленне хору Комплексу школ № 2 (II месца ў школьнай катэгорыі) і калектыву «Гіп-Топ» з інструментальным калектывам Комплексу школ № 3 (III месца) — абодва з Гайнаўкі. Цікава калядавалі дзеткі і моладзь з хору Грамадскай музычнай школы першай ступені ў Гайнаўцы (III месца), квінтэт «Доўгі вечар» (II месца), у якім спяваюць харысты маладзёжнага хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, маладзёжны хор Дома культуры ў Беластоку (II месца) і хор леснікоў з Белавежы (III месца).

— Наш калектыў «Знічка» выступіў сёння на фестывалі дваццаты раз, бо мы не прапусцілі ніводных калядных сустрэч. Спяваем разнародныя калядкі і рыхтуемся ўжо да фестывалю «Беларуская песня», — сказала Бажэна Вінцонак, музычны кіраўнік «Знічкі», якая заняла трэцяе месца.

У катэгорыі прыхадскіх хароў займальна калядавалі дзіцячы і маладзёжны хары Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (абодва хары занялі другое месца, а першага месца журы не прызначыла). Абодва хары ўдала выступілі таксама супольна і на завяршэнне каляднага мерапрыемства супольна праспявалі «Многае лета».

— Самым важным лічу абнаўленне дзейнасці нашага дзіцячага хору, якога спевакі будуць замяшчаць нашых харыстаў з маладзёжнага хору, што ідуць вучыцца ў навучальныя ўстановы ў розныя гарады і потым большасць з іх не вяртаецца ў Гайнаўку, — сказаў дырыжор маладзёжнага хору Свята-Троіцкага сабора протадыякан Марк Мацюка. Дырыжор дзіцячага хору Юстына Марчук удакладніла, што зараз у ім спяваюць 46 дзетак, а сярод іх ёсць таксама хлопцы.

Цікава запрэзентаваўся дзіцячы хор Прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы і заняў III месца. Калядкі ўдала запрэзентаваў украінскі калектыў «Ранок» з Бельскага дома культуры (I месца) і калектыў «Гілачка» з Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе (II месца). Традыцыю калядавання ўдала паказалі, выступаючы перш за ўсё з даўнімі калядкамі, нашы народныя калектывы — «Рэха пушчы» ГДК (III месца), «Жаваранкі» з Махнатага, «Верасы» з Чыжоў, «Родына» з Дубяжына (II месца), «Вульчанкі» з Вулькі-Тэрахоўскай і вакальны калектыў з Чаромхі-Вёскі (III месца).

— Мы спяваем калядкі такімі, якімі спявалі іх нашы мамы і бабулі. Свецкія песні таксама выконваем такія, якія ў нас спяваліся, — сказалі нашым чытачам жанчыны з Вулькі-Тэрахоўскай і Чаромхі-Вёскі.

Хор «Рэха пушчы» Гайнаўскага дома культуры збіраўся яшчэ калядаваць падчас Прэзентацый калядных калектываў «Звязда і каляда», якія ў Беластоку ладзіць Галоўнае праўленне БГКТ.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## У зімовыя вечары ў святліцы

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета дванаццаць прыгожых святліц. Некаторыя з іх маюць тэлевізары, радыёпрыёмнікі, прыгожае клубнае абсталяванне, між іншым, новыя сталы і крэслы, сталы для настольнага тэніса, а таксама навейшыя фіранкі. У новаздадзеных у карыстанне вясковых дамах культуры ёсць прыгожыя камінкі, якія цяпер, зімой, вельмі патрэбныя, каб для наведвальнікаў было тут цёпла і прытульна.

У некаторых святліцах бурліць жыццё круглы год. Перш за ўсё ў тых вясковых дамах культуры, у якіх працуюць на штаце інструктаркі. Многа культурных мерапрыемстваў ладзяць у самаўрадавай святліцы ў Старым Ляўкове, якую вядзе Крыстына Паскробка. Напрыканцы мінулага года тут адбыўся павятовы турнір настольнага тэніса.

А вось зараз у зімнюю пару кожны чацвер а гадзіне 15-й прыходзіць 7 а то і 10 жанчын, каб не сядзець дома перад тэлевізарам, толькі супольна карысна правесці вольны час. Займаюцца яны вышыўкай крыжыкам, выконваюць сурвэткі кручком або вучыцца ад спадарыні Крыстыны складаць арыгамі.

## Дапамагайма птушкам

Зімой ёсць нагода дапамагчы нашым крылатым сябрам, між іншым, амялушкам, чыжам, снегірам, лясным канарэйкам і сініцам, якія застаюцца ў нас на зіму. А зараз у студзені ўсюды — і ў лесе, і ў полі — нападала многа снегу і ім цяжка здабываць сабе корм. Дзеці і дарослыя памятайце аб гэтым. Вучні падчас зімніх канікул не забывайце пра птушыныя сталовыя на школьных пляцоўках. Птушкі будуць прылятаць да кармушак.

«Зімовыя» птушкі найлепш любяць сланечнік, зерне проса і льну, крупы, ягады рабіны і дзікай ружы, дробныя кусочкі сушанай агародніны (м.інш. морквы, гарбуза і буракоў) ды кусочкі свежай нясоленай саланіны і мяса, а таксама хлеба. Павінны быць дробныя кусочкі, каб птушкі не давіліся.

Прыйдзе вясна ды лета і птушкі аддзячаць нам сваім прыгожым рознагалосым спевам.

## Выстаўка ікон і царкоўных званоў

11 студзеня гэтага года ў Гайнаўскім доме культуры (ГДК) адкрылі багатую і цікавую выстаўку пад загалоўкам «Вароты веры. Беларуская іканаграфія і званы XIII і XIX стагоддзяў». Прыгожыя вялікія і малыя іконы ды царкоўныя званы ўзяты са збораў Музея старажытнай беларускай нацыянальнай культуры Беларусі.

Аглядзець выстаўку можна ў гадзінах працы ГДК, а з 20 студзеня Гайнаўскі дом культуры запрашае дзяцей і моладзь на пластычныя заняткі. У плане выкананне падарункаў з нагоды Дня бабулі і Дня дзядулі. Пачатак а гадзіне 16³⁰. **(яц)**

## Кузаўскія калядоўшчыцы

Штогод харысткі прыхадской царквы ў Кузаве калядуюць у сваім прыходзе, а грошы прызначаюць на рамонт храма. У мінулым годзе закалядавалі больш чатырох тысяч злотых. Сёлета калядавалі ў сваёй вёсцы ў нядзелю, 15 студзеня, бо як гаварыла пявуння Вольга Раманчук, на Каляды сталі лютыя маразы. У гэты дзень у Кузаве закалядавалі 3240 зл. На Вадохрышча мяркуюць пайсці з калядаваннем у Рэпчычы і пасёлак Ажарова, які належыць да Кузаўскага прыхода. Як канстатавала мая субяседніца, сабраныя грошы будуць прызначаны на аднаўленне ікон за Райскімі дзвярыма.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Паўстанцкі блазан Дамянік Бейда

**Дамінік Бейда** быў дастаўлены ў турму ў Бельску напрыканцы верасня 1863 года. Нягледзячы на тое, што яму было толькі 54 гады, мужчына выглядаў за старога, да таго ж быў сляпы на левае вока і кульгавы на адну нагу. Бейда чакаў, калі ваенна-судовая камісія дабярэцца да яго справы і вызваліць з турмы, як і большасць іншых сялян, на ранейшае месца жыхарства пад нагляд паліцыі.

14 кастрычніка Дамінік быў выкліканы на допыт. Яго гісторыя амаль нічым не адрознівалася ад шматлікіх іншых, ужо не раз чутых прадстаўнікамі камісіі. Бейда, незаконнанароджаны, неадукаваны, каталік спакойным голасам паведаміў пра прычыну сваёй двухмесячнай адсутнасці ў роднай вёсцы: «Ішоў я да свайго сына ў вёску Корыца, на дарозе мяне запынілі 4 коннікі і двое пешых, узброеныя, і забралі мяне ў партыю Баранцэвіча, дзе мяне вартавалі тры дні, а пасля на працягу двух тыдняў я быў у шайцы без асаблівага нагляду. Зброі ніякай не меў, а, выбраўшы зручны час, збег з шайкі дахаты, дзе і быў увесь час да арышту. Усе паказанні па існай праўдзе, у чым і прашу распісацца. Дамянік Бейда, а за яго па просьбе падпісаўся шэраговы Грыгор Кудакоў».




На падставе падобных гісторый па ўсім Краі на волю была вызвалена не адна сотня сялян, прымаўшых удзел у паўстанні. Гэта рабілася па рашэнні віленскага генерал-губернатара Міхаіла Мураўёва з мэтаю разгрузіць ваенна-судовыя камісіі ад другарадных спраў і сканцэнтравацца на вызначэнні ступені віны палітычных злачынцаў, у першую чаргу з ліку шляхты. Селяніну дастаткова было добраахвотна з'явіцца ў следчую камісію, заявіць пра прымусовы ўдзел у паўстанцкім атрадзе, дзе ён не меў нават зброі, не прымаў удзелу ў сутычках з рэгулярнай арміяй і збег пры першай жа магчымасці. Таму Дамінік Бейда і не сумняваўся, што зрабіў усё правільна, каб хутчэй апынуцца на волі. Але ён не ведаў таго, што яго выклікалі мэтанакіравана, па даносе трох нядаўна арыштаваных сялян, якія паведамілі: Бейда ўдзельнічаў у павешаннях!

Ранкам 14 кастрычніка ў Бельскую ваенна-судовую камісію прыбылі былыя паўстанцы — сяляне Сідар Андрэнёк, Пётр Жэра і Фёдар Малашэвіч, якія аб'явілі, што ў турэмным замку знаходзіцца пад арыштам чалавек, які займаўся вешаннем, выкопваннем ямаў для павешаных, а таксама выконваў ролю паўстанцакага блазна. Указаная імі асоба выклікала ў камісіі здзіўленне. Яны назвалі імя Дамініка Бейды, якога ў выніку і выклікалі на допыт.

Пасля таго, як Бейда даў паказанні, у пакой да яго ўвайшлі Сідар Андрэнёк і Пётр Жэра. Пачалася вочная стаўка.

Высветлілася, што Дамінік Бейда ў атрадзе Баранцэвіча, у якім знаходзіўся каля двух месяцаў, быў добраахвотнікам. Ён часта пакідаў лагер і адпраўляўся за харчаваннем. Калі ж паблізу размяшчэння паўстанцаў праходзілі расійскія войскі, Дамінік сыходзіў з атрада і прадстаўляўся жабраком, выкарыстоўваючы ўласныя калецтвы ў якасці прыкрыцця, каб разведаць іх перамяшчэнні і ў выпадку небяспекі, накіраваць іх па фальшывым шляху. Бейда заўсёды выклікаўся прыводзіць у выкананне цялесныя пакаранні, на што пагаджаўся і паўстанцкі стралок Гермуль, былы півавар з вёскі Вількаў. Сяляне ўзгадвалі: «Вешалі яны заўсёды разам, мы вельмі добра памятаем як па просьбе памешчыцы Ушынскай, са згоды Баранцэвіча, яны павесілі аднаго хлопчыка гадоў 18-ці за тое, што ён паказваў дарогу казакам, якія ішлі з Цеханоўца; за сухой Гроніцай у Царстве Польскім яны павесілі двух маладых салдат, якіх злавілі паўстанцы ў вёсцы Рудка ў карчме, аднаго штацкага, выдатна адзетага і пастрыжанага па-казацку за тое, што казацкая фрызура навяла падазрэнне, што ён пераапрануты казак».

Акрамя іх у тым самым месцы павесілі яшчэ некалькі чалавек. Андрэнёк назваў лічбу «не менш 8-мі», а Пётр Жэра ўвогуле прыпісаў Дзяміку ўдзел у павешанні «не менш 25-ці чалавек». Сярод іх аднаго з жыхароў Бельскага ўезда, якога «блазан» прывёў у атрад разам з паручнікам Садоўскім, дзяўчыны і пастушка з вёскі Верчыкі — за тое, што яны далі ведаць расійскім войскам, размешчаным у Сямятычах, пра падыход да мястэчка паўстанцаў. Акрамя таго Андрэнёк і Жэра абвінавацілі Бейду ў здзеках над схопленымі за здраду супраць паўстанцаў, чым ён рабіў вялікае задавальненне кіраўнікам атрада. Дамінік зброі не насіў, заўсёды хадзіў з венікам, якім падмятаў дарогу, каб не заставалася слядоў па прашэсці атрада. Ён быў першым любімцам Баранцэвіча, разам з ім піў гарбату і еў за адным сталом. Пры гэтым яго часта напойвалі, каб ён танцаваў і смяшыў атрад.

Абвінавачанні ў адносінах «блазна і праваднікa» Бейды пацвердзіў удзельнік атрада Эйтміновіча шляхціч Тодар Мальшэвіч. Ён засведчыў, што аднойчы, калі быў у пікеце, то бачыў, як Дамінік капаў яму ў пятнаццаці кроках ад паўстанцкага паста. Калі выкапаў, то, вяртаючыся ў атрад, мовіў: «Гэта яма для павешанага». Калі ж Мальшэвіч пацікавіўся, каго будуць вешаць, то пачуў, што Бейда не ведае і што гэта прыходзіцца рабіць яму не першы раз. На наступны дзень Мальшэвіч бачыў, як Дамінік Бейда разам з чатырма іншымі незнаёмымі павесіў аднаго з тутэйшых жыхароў, падазраваных у шпіёнстве. Таго злавілі ў лесе, куды ён прыехаў па дровы разам з 12-гадовым сынам, якога пасля павешання бацькі яшчэ тры дні трымалі пры атрадзе, пакуль не аддалі паліцыянтам. Акрамя таго, Мальшэвіч адзначыў, што Бейда перавёў іх атрад праз Буг, а затым знік невядома куды.

Першапачаткова Дамінік Бейда не згаджаўся з гэтымі абвінавачаннямі, але збіваемы словамі Сідара Адрэнёка і Пятра Жэры прызнаўся, што ён сапраўды ўваходзіў у атрад Баранцэвіча. Быў вельмі шанаваны і выконваў усе загады кіраўніка, а менавіта: паказваў дарогу атраду, пасля яго адыходу замятаў сляды, выкопваў ямы для пахавання павешаных, але ў павешаннях ніколі не ўдзельнічаў. Ямы ж выкапаў для больш, чым 12-ці чалавек і быў прызначаны на гэтую пасаду супраць уласнай волі. Пасля адыходу атрада Баранцэвіча з Бельскага ўезда Бейда атрымаў дазвол на кароткі час адправіцца дахаты, але праз некалькі дзён павінен быў далучыцца да атрада Эйтміновіча, дзе прабыў толькі два дні. Пасля таго, як перавёў атрад за Буг, быў адпраўлены ў родную вёску, дзе быў схоплены і дастаўлены ў Бельск.

Наконт сваёй ролі як блазна Дамінік патлумачыў вельмі адкрыта: «Весяліў у атрадзе ўсіх, таму што мяне добра кармілі і паілі гарбатаю і гарэлкаю кіраўнікі атрада».

Праз некалькі дзён пасля першага допыту і вочнай стаўкі, 18 кастрычніка 1863 года Дамінік Бейда чарговы раз быў апытаны ў Бельскай ваенна-судовай камісіі і прызнаўся ў павешанні трох невядомых яму чалавек. Пасля гэтага ваенны начальнік Бельска 26 кастрычніка атрымаў прапанову стварыць ваенна-судовую камісію над Дамінікам Бейдаю з ліку афіцэраў Сафійскага пяхотнага палка. Доказы віны паўстанцкага блазна былі відавочнымі, асабліва пасля яго прызнанняў. Таму 13 лістапада 1863 года Міхаіл Мураўёў адправіў гродзенскаму ваеннаму кіраўніку загад накіраваць у Бельск гарадскога ката для выканання смяротнага загаду праз павешанне.

20 лістапада (2 снежня) 1863 года ў 9.30 раніцы ў Бельску за Бранскаю заставаю быў павешаны Дамінік Бейда, паўстанцкі блазан і вешальнік, удзельнік атрадаў Эйтміновіча і Баранцэвіча.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК**

РОДАМ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# Мастак успамінае Бацюты

**З сямейнага фотаальбома беларускага мастака Мікалая Несцярэўскага**



Мікалай Несцярэўскі, 1958 г.



Анастасія і Лаўрэн Несцярэўскія, вёска Бацюты, 1930 г.



Пятро Калодка з Зачарлянаў, Пятро Кіраў – расіянін, Яўген Лабасюк з-пад Беластока, Мікалай Несцярэўскі (сядзіць) з Бацютаў, 1949 г.

**Мікалай Несцярэўскі** — унікальны чалавек. Сёлета яму ў сакавіку будзе ўжо 86 гадоў. Ён — вядомы беларускі мастак, кераміст, жывапісец, скульптар, музыкант, сябра Беларускага саюза мастакоў. Жыве цяпер у Мінску, але нарадзіўся ў вёсцы Бацюты на Беласточчыне. Любоў да сваёй малой радзімы Мікалай Несцярэўскі пранёс праз усё жыццё. Ён кожны дзень прыгадвае свае родныя Бацюты, якіх ніяк не можа забыць, бо там нарадзіўся, там прайшло маленства, там жылі і жывуць яго сваякі.

Мастак нарадзіўся ў сям'і беларускіх сялян праваслаўнага веравызнання. Бацька — Лаўрэн Маркавіч Несцярэўскі — быў хлебаробам, маці — Настасся Лявонцьеўна — хатняй гаспадыняй. У сям'і было трое дзяцей: Мікалай, Вольга і Галіна. На момант нараджэння малога Міколкі, сям'я жыла заможна: Несцярэўскія мелі 25 гектараў зямлі (18 — ворнай, астатнія — паплавы і сенакосы), былі коні, каровы, свінні, куры, гусі.

У 1938 годзе памёр яго бацька. Усе клопаты па хатняй гаспадарцы ляглі на плечы сямігадовага Міколкі і маці. Хлопчык рана навучыўся касіць траву, араць зямлю, сеяць жыта, збіраць ураджай.

Пасля заканчэння вайны сям'ю Несцярэўскіх, як і тысячы беларусаў па нацыянальнасці, прымусова вывезлі ў Беларусь і далей у Расію. Несцярэўскія трапілі ў мястэчка Дзятлава на Гарадзеншчыну.

У 1947 годзе Мікалай Несцярэўскі пачаў працаваць вучнем, потым цесляром у арцелі „Чырвоны Кастрычнік" і адначасова вучыўся ў Дзятлаўскай вячэрняй школе рабочай моладзі. У 1953-1955 гадах працаваў майстрам сталярнага цэха Дзятлаўскага раённага прамкамбіната. У гэты час юнак актыўна ўдзельнічаў у мастацкай самадзейнасці — іграў у духавым аркестры, спяваў у хоры, танцаваў, рабіў першыя крокі ў выяўленчым мастацтве. З 1955 года ён — інструктар Дзятлаўскага раённага дома культуры.

У 1959-1962 гадах Несцярэўскі працаваў мастаком-афарміцелем у Дзятлаўскім раённым прамкамбінаце, потым настаўнікам працы, малявання і чарчэння ў Дзятлаўскай сярэдняй школе. І вядома ж, вучыўся, атрымаў вышэйшую адукацыю.

Кожны раз пры сустрэчы Мікалай Несцярэўскі распачынае сваю гутарку пра Беласточчыну і вяртаецца ў Бацюты. Ён і цяпер памятае ўсё да драбніц, што назаўсёды засталося ў яго дзіцячай і юнацкай памяці. Калі б яму зараз далі хату і сказалі едзь у Бацюты і жыві там, спадар Несцярэўскі паляцеў бы, здаецца, на крылах. Мастак не толькі шчыра ўспамінае Бацюты, але і любоў у яго да роднай вёскі бясконцая. Але, на жаль, яго доўгая дарога дадому, як пісаў Васіль Быкаў, працягваецца. Хаця раз у год ён наведвае родную Беласточчыну і сваякоў.

Нядаўна Мікалай Несцярэўскі паказаў мне некалькі старых фотаздымкаў са свайго сямейнага фотаальбома. На іх адлюстраваны яго бацькі, сябры, вяскоўцы, новыя знаёмыя з Дзятлава, з якімі ён пазнаёміўся ў канцы 1940-х гадоў, а таксама землякі, якія з ім прыехалі з Беласточчыны. Усе гэтыя фотаздымкі адлюстроўваюць той час і падзеі, калі ў сярэдзіне XX стагоддзя жыў беларускі мастак з Бацютаў. Некаторыя фотаздымкі мы выбралі разам для публікацыі ў „Ніве". Яны друкуюцца ўпершыню.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Дзятлаўскі хор і аркестр, 1950 г. Многія хлопцы і дзяўчаты былі родам з Беласточчыны



Дзятлаўскі аркест (чацвёрты справа Мікалай Несцярэўскі), 1956 г.



Злева направа: Піліп Чэх, Настасся Несцярэўская і Іван Шайноўскі з Бацютаў, 1989 г.

# Пятая
## навукова-краязнаўчая канферэнцыя ў музеі-сядзібе „Пружанскі палацык"



Удзельнікі канферэнцыі ў „Пружанскім палацыку". 23 снежня 2016 г.

23 снежня 2016 г. у музеі-сядзібе „Пружанскі палацык" прайшла V навукова-краязнаўчая канферэнцыя пад назвай „Белавежжа: мінулае і сучаснасць". Яна аб'яднала даследчыкаў, у сферу інтарэсаў якіх уваходзіць вывучэнне Белавежскай пушчы. Сярод прыярытэтных тэм — прыродна-геаграфічныя асаблівасці і біялагічная разнастайнасць, гісторыя і асобы, гаспадарка і турызм і інш. Шырокая тэматыка дазволіла далучыць да іх абмеркавання вучоных, краязнаўцаў і музейных супрацоўнікаў з Беларусі і Польшчы.

Агляд крыніц, якія тычацца розных бакоў жыцця Белавежжа ў міжваенны перыяд і захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Брэсцкай вобласці, зрабіў доктар гістарычных навук, прафесар Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Аляксандр Вабішчэвіч.

Галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы „Пружанскі палацык" Наталля Пракаповіч асвятліла гісторыю паселішчаў Пружаншчыны ў сістэме аховы і гаспадаркі Белавежскай пушчы XV-XVIII стст.

Падзеі паўстання 1863 г. каля в. Глыбокі Кут закрануў кандыдат гістарычных навук Віталь Карнялюк (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Я. Купалы).

Лёс святара Канстанціна Байко — ахвяры пасляваенных сталінскіх рэпрэсій — адлюстраваў Дарафей Фіёнік (дырэктар музея Малой Бацькаўшчыны ў Студзіводах, г. Бельск-Падляшскі, Польшча).

Даклад настаўніцы СШ № 4 г. Пружаны Святланы Собаль і студэнткі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Дар'і Місюлі быў прысвечаны „Папялёўскаму перыяду" жыцця і творчасці беларускага літаратара Міколы Купрэева.

Па выніках канферэнцыі „Белавежжа: мінулае і сучаснасць" быў выдадзены зборнік дакладаў. Акрамя ўзгаданых у ім былі надрукаваны даследаванні вучоных: Ірыны Абрамавай, Сяргея Арцёменкі, Аксаны Градуновай, Аляксандра Грыбко, Віктара Карпука, Сяргея Нічыпарука, Наталлі Галімавай, Аляксандра Свірыда (Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна), Аляксандра Казарэза (Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт).

Канферэнцыя ў „Пружанскім палацыку" дазволіла аб'яднаць вучоных і краязнаўцаў, якія займаюцца вывучэннем Белавежскага рэгіёна, абмеркаваць актуальныя пытанні і сабраць цікавы і карысны матэрыял, як для даследчыкаў, так і шырокіх колаў грамадства.

**Наталля Пракаповіч**
галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы „Пружанскі палацык"



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Новыя вершы Олі Яроцкай

Літаратары, які ацэньваюць аўтараў конкурсу «Дэбют», часта звяртаюцца да лаўрэатаў першых месцаў, каб яны ўжо не спаборнічалі з сябрамі, а толькі займаліся творчай працай. Іх здольнасці ўжо ацэнены і дацэнены. Зараз перад імі не менш цікавы выклік — самаразвіццё, новыя публікацыі, чытанкі, сустрэчы з іншымі аўтарамі і чытачамі. Такой дарогай ідзе Оля Яроцкая з Гарадка. Яе здольнасці журы ацаніла ўжо даўно-даўно, калі Оля была яшчэ ў пачатковай школе. Зараз, час ад часу, а яна вучаніца гарадоцкай гімназіі, дасылае нам свае новыя вершы. І гэта такая радасць — не расказаць. Найперш таму, што яны ўзнікаюць з патрэбы сэрца і любові да роднай мовы. У іх вобразы роднага краявіду, не толькі рэальнага. Гэта наш беларускі сон, наш лёс, наш космас. Гэта любоў і каханне, адценні пачуццяў, у якіх адна крыніца: Радзіма.

Здольнасці Олі прыкмеціла не толькі журы «Дэбюту». Яе верш «Куфэрак», які мы паставілі на фейсбук «Сустрэчы Зоркі», пахваліў сам Леанід Дранько-Майсюк.

Зараз прапануем вашай увазе новую нізку пазаконкурсных вершаў Олі Яроцкай, якія даслала нам яе настаўніца Альжбета Раманчук.

**ЗОРКА**



Оля Яроцкая

## Любімая зямля

Мая любімая зямля
Маё месца нараджэння
Тут я вырасла
Тут жыву
І жыць буду
Я хачу жыць толькі тут

Дзе ў свеце
Яркія патокі
Сасновыя лясы
Медныя палі
Сочныя лугі
Дзе ў свеце
Дзе

## * * *

Ты золатам у маёй кароне
Ты жамчужынай у маіх каралях
Ты дажджом у пустыні

Табе тысяча залатых руж
Табе тысяча кракадзілавых слёзаў
Табе золата з акіянаў

Ты маёй умілаванай
Ты зоркай маёй поўначы
Ты прызначана для мяне
Лёс даўно злучыў нас

## Ноч

Зоркі па небе ходзяць
Ціха спяваюць свае песні
Вышчарблены месяц
Шукае шчасця
Паміж зор

Мы спакойна спімо
У сваіх дамах
А зоркі іграюць мелодыю
Няздзейсненых надзей
Павольна ўстае новы дзень
Новы лепшы дзень

# Калядныя ластавачкі



**На васямнаццатай прэзентацыі калядных калектываў «Гвязда і калядка", якую ладзіць Беларускае таварыства, найпрыгажэй і найшчырэй выступілі дзеткі. Была і «Вясёлка» з беларускага садка № 14 з Беластока, і «Антракт-міні» з Бельска, і «Званкі» з Гайнаўкі, і сястрычкі Астапчук з Грабаўкі. А з Рыбалаў прыехалі аж два калектывы — «Ластавачкі» і «Росы».**

— Мае «Ластавачкі» прыляцелі! — цешыцца пані Лідзія Мартынюк. — З Вясковага дома культуры ў Рыбалах. У нас школы ўжо няма, дзеткі вучацца ў Заблудаве. Але ў нас яны вучацца беларускай мове. Нашу гвязду рабілі мы разам, з дзецьмі і з бацькамі. Падстава ў ёй — рэшата. Мы з ёю ўжо і калядавалі, хадзілі з намі і дзве мамы. Сёння мы ўжо выступалі ў Заблудаве, у касцёле, адтуль і прыехалі на канцэрт у Беласток. Заспяваем калядкі «Свецяць, свецяць зорачкі» і «Добры вечар усім вам».

— Мы спяваем таксама ў царкоўным хоры, — кажуць дзяўчаткі. — Сёння з намі няма шасці дзетак, не змаглі прыехаць, бо пахварэлі. Вось, Габрысь захварэў... Паслухаеце нашы калядкі на сцэне! «Зорачкі» — самая прыгожая! «Загарымся свечкамі залатымі, яснымі. Слава Богу ўзвышняму, на зямельцы шчасцейка!»

**(лук)**

# УВАГА КОНКУРС! № 4-17

**Б'е яго спартсмен ракетай,
Ён не крыўдзіцца за гэта
І ніколі ён не плача:
Ні калі ляжыць, ці скача.
М..**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 5 лютага 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 1-17: певень. Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі Томэк Маркевіч, Оля Кардаш з Нарвы, Віктар Лінк, Матвей Зыскоўскі з КШ № 1 у Гайнаўцы, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага, Мартына Лукша з Нараўкі. Віншуем!**

# Шчасце і Разважлівасць

*(казкі народаў Каўказа)*

У адным ауле жыў чалавек з сям'ёй. Жылі яны ў згодзе і дастатку, разам працавалі ў полі, разам сядалі за стол абедаць, дзялілі радасць і гора.

Аднойчы бацька прачнуўся раніцай. Выйшаў ён на двор, каб пакарміць каня. Глядзіць, увесь панадворак снегам замяло, усюды бела-бела. А з яго хаты да брамкі свежыя сляды ідуць. Здзівіўся чалавек. Ніхто не гасцяваў у яго хаце, ніхто з сямейнікаў на двор не выходзіў. Рашыў ён высветліць куды ідуць сляды. Выйшаў за вёску, ідзе ў поле, а след не абрываецца. Толькі сярод поля, дзе рос куст шыпшыны*, след спыніўся.

— Адгукніся той, хто выйшаў з майго двара і тут схаваўся! — крыкнуў чалавек.

— Я — тваё Шчасце, рэдка пакідала твой дом, — адказаў голас, — дык цяпер хачу пажыць пад шыпшынай. Ну, паколькі ты высачыў мяне, дык здзейсню яшчэ адно тваё пажаданне. Скажы, што табе больш даспадобы — жывёла, многа зямлі, ці багатыя апранахі?

— Пастой, — сказаў чалавек, — пайду дамоў і параюся з роднымі.

— Добра, ідзі, — адказала Шчасце, — толькі хутка вяртайся.

Пабег чалавек дахаты, каб сказаць сямі'і, як уцякло Шчасце з іх двара. І пра прапановы, якія яно паставіла. Сталі ўсе гадаць, шукаць найлепшага выбару.

— Папрасі, каб дало нам яшчэ больш зямлі, — сказала жонка.

— Будзе зямля, усё будзе.

— Не, няхай дасць больш коней, — сказаў старэйшы сын.

— Лепш папрасіце прыгожыя апранахі і адзенне, — загарэліся дочкі.

Паспрачаліся ўсе з усімі. Кожны хацеў даказаць што яго прапанова самая лепшая. І вось прамовіла адна нявестка, якой голас ніколі ў сям'і не бралі пад увагу.

— Калі можна, папрасіце Разважлівасць.

— Добра ты гаворыш, галубка, — адказаў бацька.

— І чаму я раней не падумала, каб папрасіць Разважлівасць! — пагадзілася маці.

Усе зразумелі, што развежлівасць найбольш неабходная ў сям'і. Вярнуўся чалавек да шыпшыны і гукае Шчасце.

— Доўга вы думалі, выбіралі, — прамовіла Шчасце. — Дык што хочаце ад мяне?

— Вазьмі ўсё сабе, што нам прапануеш, — сказаў чалавек, — толькі пакінь нам Разважлівасць.

— Відаць, не змагу я пакінуць твой дом, — кажа Шчасце, — то ж дзе Разважлівасць, там і я. Нідзе мне ад яе не ўцячы, не схавацца. Мы без сябе не існуем.

Вярнулася Шчасце ў дом чалавека і зноў усё ў сям'і было як трэба.

* шыпшына — дзікая ружа

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**


Уршуля МАРЧУК

Уршуля МАРЧУК
Гімназія ў Нараўцы

* * *

Вазьму аловак,
пакладу лісток паперы на стале,
падумаю і нарысую.

Нарысую свет,
які вакол мяне
і напэўна сваіх бацькоў.

Падумаю яшчэ...
Раптам успомню Цябе,
і Цябе таксама спрабую
нарысаваць.
Толькі не ведаю як.

Не ведаю як,
бо Ты як паветра...
якога не магу ўбачыць.

Але калі Цябе знайду,
Ты нарысуеш свой рысунак —
Ты нарысуеш мой свет!

# Вершы Віктара Шведа



## Хто іх бачыў?

– Ці Колас жыве, тата?
– Памёр ён даўнавата.
– А ці жыве Купала?
– Яго таксама не стала.

– Няма пісьменнікаў жывых?
– Ды ёсць на свеце многа іх.
Сын тату азадачыў:
— А хто ж іх, татка, бачыў?

## Услужлівая Лена

У аўтобусе Лена
Сядзіць у бацькі на каленях.
Уваходзіць жанчына,
Лены добры ўчынак:

– Сядайце, калі ласка,
А я з абавязку
У таўкучкі час
Пастаю каля вас.

*Замкі і палацы Беларусі*

# ГРОДЗЕНСКІЯ ЗАМКІ І РЫЦАРСКІЯ ПАХОДЫ

Гродна заўсёды славілася замкамі. Стары замак, або як кажуць інакш Верхні замак, гэта частка беларускай тоеснасці. Тут знаходзіўся штаб легендарнага князя Вітаўта, які з рыцарамі рыхтаваўся да Грунвальдскай бітвы. Адсюль ваяры рушылі на пераможны бой. Гродзенскі замак пабудаваны на зломе XIV і XV стагоддзяў як непрыступная крэпасць перад паходамі тэўтонцаў. Будынак уражваў веліччу і грунтоўнасцю. Даўжыня яго сцен — 300 метраў, таўшчыня муроў — 3 метры. Замак сцерагглі пяць высокіх веж, равы і зямныя валы.



Стары замак, як амаль усе беларускія крэпасці, моцна пацярпеў у часы Паўночнай вайны (1700-1721). А трэба дадаць, Гродна ўвесь час лічылася важным палітычным цэнтрам, якога сімвалам явіўся замак. Таму эліты краіны лічылі неабходнасцю збудаваць новы і адначасова камфортны будынак.

Ідэя здзейснілася. У XVIII стагоддзі, па жаданні караля Аўгуста III узведзены быў Новы замак. Згодна з духам часу ён пабудаваны ў стылі ракако і напамінаў славутую Цвінгер-Дрэздэнскую галерэю.

У Гродне адбываліся соймы, у тым ліку найбольш сумнавядомы «нямы» сойм 1793 года, які прывёў да другога падзелу Рэчы Паспалітай.

Зараз у Новым замку працуе абласная бібліятэка імя Яўфіма Карскага, а ў Старым Замку знаходзіцца археалагічны музей.

**Зорка**

# Польска-беларуская крыжаванка № 4-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 52-16:**

Пуп, свята, камар, ар, кніга, атаман, сіла, код, адзежа. Кронь, ява, ям, анод, такт, Парнас, імідж, кагал, ранак, параход.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Оля Зялінская, Аляксандра Каліноўская** з Нараўкі, **Мальвіна Маркевіч, Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк** з Бельска-Падляшскага, **Вераніка Снарская, Вікторыя Якімюк** з Нарвы, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Rękawica / Szach i ... | Mag / Sęk | | | | Re / Koszt | | | Śmietana |
| | Sroka / Krąg | | | | | | | Rada | |
| | | | | Korek | Opamiętanie / Aster | | | | |
| | Wy | | Kasza / Usta | | | | | | |
| | | Wzrost | | | | | Akt | Rak | |
| | Tort | | | | | Ara / Ar | | | |
| | Osa | Karaluch | | | | | | | |
| | | | Kartka | | | | | | |

# Вершы

## Кацярыны Сянкевіч



*

Я пішу табе так, як адчуваю
электроннай энергіяй экалагічна чыстай
Я дасылаю тонкасць крамянёвымі дарожкамі
што праводзяць словы думак

калі я размаўляю
цела прыліпае да зместу
яно блакуе пераход
паміж тым і гэтым светам

грахоўнае цела адказнае за цялесныя словы
толькі іх адчувальнасцю і тваім прабачэннем
яны дасягаюць сцелаўстанне
і адухаўленне

*

давай пажэнімся
праз тыдзень канец свету
а два дні потым
кроў месяца

*

шукаю адказу
што такое маё цела
ці яно выключна для мяне
ці яго раздзелы не з'яўляюцца несвядомымі
прызначэння
невярыкастанымі
не разбуджанымі
святлом

*

я дарыла табе
спрэй для ачышчэння
кахання
цяпер для мяне ты
ў самой сярэдзіне
чысціні

*

не ведаю мелодыі
касцей тваіх пальцаў
на інструменце дзвярэй арандаваных з ПНР
правяраю ўсе песні гукі ўначы
людзі тыкаючыя нажы ў спіны людзям
таўчэнне адбіўных
грук
уверх па лесвіцы

*

Я прымушана знайсці крыніцу шчасця
па-за часавую ўрадлівую маці-зямлю
нараджаючую эндарфіны па патрабаванні
ў самых здаровых прадуктах
кандэнсуючых жыццё і будучы момант
да кансістэнцыі таблетак.
Але заканчваюцца ўжо яны.
Таблеткі гэта традыцыйны паганскі звычай.
Іх адсутнасць дапамагае мне заўважыць маю схільнасць.
Як словы дасыланыя лічбава.
Калі канчаюцца яны,
бывае воблачна або град і тарнада час ад часу.
Божа, калі ласка,
дадай мяне ў сябры.

*

засыхаю так,
што сама прашу
вады

каханне гэта кожны дзень
паліваць кветку
не абяцанне

### Віноўніцай

скажы як прабачыць табе
апомніцца
знайсці працу
я проста дзіця
што енчыць пра каханне

ты мне моцна патрэбны
а я не ўмею нават
выбраць на клавіятуры твой нумар
– пакута так моцна марозіць пальцы

я разумею што кажаш
затое не разумею як даравацъ
усе ночы рыданняў

я ж такім чынам
стала б адзінай
віноўніцай

*

мы пераплеценыя рамантычнай ніткай
не заўсёды публічна бачнай
нашы сябры ўпэўнены што я губляю пачуцці
верачы што не згубіла цябе
і я сходжу з розуму сапраўды думаючы
што яны маюць рацыю
а карункі руж сплеценыя з нашых уздыхаў
счапляюць нас унутры
як рак жаданняў
Пакаянне злодзея

Ты абакраў мяне
А я толькі што памыла замест цябе талеркі
Ты ўзяў мой фотаапарат і ноўтбук
Я не ведаю ці ты зараз праглядаеш мае здымкі
Ці ты прадаў усё на рынку
Зараднай прылады ты не ўкраў

Я малілася ўсю ноч перад крадзяжом
Раніцай я фарбавала валасы на баклажанавы
Хной

Я зняла медалік, каб не запэцкаць яго фарбай
Ты абакраў мяне тады
Калі я пайшла на працу
Мой стакгольмскі сіндром недастаткова моцны
Каб не ісці ў паліцыю
Лепш каб яны судзілі цябе
Чым пакаральная рука Бога

*

Я баюся кахаць
Гэта звычайна кончыцца пакутай
Баюся шпулькі фартуны з верацяном смерці
Я не ўмею гаварыць з табой калі ты маўчыш
выходзіць з мяне глухі гук

ты казаў, што не хочаш пакрыўдзіць мяне
але ты пакрыўдзіў і крыўдзіш
маўчаннем.

Маўчанне не залатое.
Маўчанне гэта гной.

# У напрамку Гродзіска

**Дабрацца з Беластока ў напрамку Гродзіска не было лёгка пры маёй памяці. Але калісь было лягчэй, чым зараз. Быў, напрыклад, аўтобус з Беластока ў Цехановец, які адпраўляўся ў пяць гадзін раніцы. У летні час была гэта раніца, а ў зімовы яшчэ цёмная ноч. І гнаўся той аўтобус цераз цемру і падаючыя пялёсткі снегу, прабіраючыся быццам касмічны „Саюз" цераз зорны антураж Галактыкі. Хапіла высадзіцца з яго ў Рудцы і ў напрамку Гродзіска было што рукою падаць.**

Было гэта, аднак, калісь, калі яшчэ аўтобусы калясілі амаль па большасці праязных дарог тутэйшага краю. А цяпер, калі асфальтоўкі ахапілі шчыльным павуціннем некаторыя нашы мясцовыя тэрыторыі, публічная камунікацыя стала згортваць свае ветразі з так рупліва нарыхтаванай ёй прасторы. Так вось з Беластока ў напрамку Гродзіска прыходзіцца дабірацца такім чынам, пра які некалі можна было меркаваць толькі ў кур'ёзных звілінах думак. А думка тут пра найстарэйшую ў нас паўтарастогадовую варшаўска-пецярбургскую чыгунку...

Чыгунка таксама коціцца з духам часу і на рэйках, так як і на асфальце, штораз менш пасажырскага транспарту мясцовага маштабу, тых цягнікоў, якія спыняюцца на кожным прыпынку. Але яшчэ яны не звяліся. Раненька, пасля шостай гадзіны, адпраўляецца такі з Беластока ў Шэпятова; у напрамку Элка зараз і такога няма...

З майго прыферыйнага Новага Места бліжэй да прыпынку Кляпачы, чым да беластоцкага галоўнага вакзала. Каляшу байкам па лясной жвіроўцы, якую разведваю ўпершыню. Насціл лёгка прымерзлы, засцелены далікатным снежным вуалем і памяркоўным багаццем выбоін. Дзіравая дарога нагадвае мне тэлетайпную стужку, той рэлікт колішняга тэхнічнага прагрэсу, пра які сёння пэўна мала хто і помніць. Пяцьдзясят гадоў таму знаёміўся я з самай на той час у нас сучаснай электроннай вылічальнай машынай „Урал-2" — комплексам шаф з мільгаючымі электроннымі лямпамі: трыёдамі, пентодамі, актодамі; комплекс той займаў даволі абшырную залу. І камунікацыя з гэтай машынай адбывалася менавіта з дапамогай тэлетайпнай стужкі, якую трэба было нарыхтаваць на тэлетайпе „Далібор" чэхаславацкай вытворчасці, а пасля прапусціць цераз адмысловы ўводны прыбор „магутнага" „Урала-2" савецкай вытворчасці. Нескладаны арыфметычны рахунак машына выконвала цягам некалькіх секунд і вынік выводзіла таксама на тэлетайпную стужку; не заўсёды быў ён акуратны. Сёння амаль кожны чалавек мае ў сумачцы або ў кішэні непараўнальна магутнейшую мабільную электронную машыну з кранальнай, візуальнай і акустычнай камунікацыяй...

Выбоіны на маёй дарозе аказаліся рознамаштабныя, з рознай ёмкасцю вады, але даволі лёгка было іх браць нескладаным веласіпедным слаламам. Слалам той, аднак, аказаўся слаламам-гігантам — неспадзявана працяглым. З'явілася трывога ці ўспею на намечаны мною поезд. Пру на педалі байка, выязджаю на асфальтоўку, мінаю паказальнік Клепачоў. Трывожна наслухоўваю ці не ўцякае мне цягнік, спяшаю. І асфальтоўка цягнецца; і заміж спадзяванага мною звычайнага чыгуначнага пераезду перада мною паказваецца віядук: да прыпынку толькі некалькі дзясяткаў усходкаў. Подбегам валаку па іх свой байк, фінішую разам з поездам; прыехаў бы пяць секунд пазней і вяртаўся б назад. Яшчэ атлетычнае ўскараскванне з нізкага перона на высокую падлогу вагона; лёгкія ледзь хапаюць паветра...

Высаджваюся на прыпынку Ябланьь-Касцельна, таксама на нізкі перон; нясмела світае. Каляшу асфальтоўкай на поўдзень, час ад часу на дарогу выбягаюць выпушчаныя панач гаспадарскія сабакі, прыходзіцца час ад часу сходзіць з байка, каб прадэманстраваць нейтральныя адносіны да даручаных сабакам аб'ектаў. Мінаю Новыя Пякуты, мінаю Старую Прушанку. За апошняй вёскай заўважаю лясок, а на яго акраіне нацягнутыя ветрам сцяжкі — гэта нейкая магілка. Падыходжу: да высокага крыжа прычэплена даведка, што там пакояцца астанкі польскіх жаўнераў, якія загінулі 13 верасня 1939 года. Даведка лаканічная, падае толькі дату і назву часці, у якой служылі пакойнікі, але няма іх ліку і іхніх ідэнтыфікацый: адкуль яны, якой яны мовы і веры... А два расцягнутыя на ветры бела-чырвоныя сцяжкі быццам ганаровыя вартавыя ахоўваюць агульную памяць пра іх, пра ананімных выканаўцаў салдацкага абавязку...

Выцягваю з кішэні сваю вылічальную электронную машыну. Не так даўно на гэтых старонках Міраслаў Грыка заўважаў, што цяпер службы могуць сачыць за чалавекам з мабільнікам. Дакладней — за закладзенай у той мабільнік унікатнай электроннай фішкай. Але не толькі службы, бо і сам уладальнік тэлефона можа эгаістычна пацікавіцца сабою — у якім месцы апынуўся ён сам. Вось і я ўпэўніўся, што апынуўся пры дарозе ад Старой Прушанкі ў Мень. Дарога тая стандартнай шырыні, абсыпаная, вымашчаная даволі мяккім насцілам, на якім глыбокія сляды натужлівага змагання транспарту з балотністай дарожнай рэальнасцю.

Перасякаю бельска-замбраўскую шашу і каляшу ў Мень. Гэта па сутнасці вёска-вуліцоўка, але яе тапанімія багацейшая. Вуліца названа ў гонар Яна Паўла II. Вулачка, што ўскосам адыходзіць ад яе ў пачатку вёскі, названа Прушынскай, бо з боку згаданай раней Прушанкі. Недзе пасярэдзіне вёскі заўважаю, што выходзячая ў поле вулачка названа імем Маршалка Пілсудскага. У канцы вёскі вуліца загібаецца, ад яе адыходзіць вулачка названая ў гонар Брата Альберта. Неўзабаве да галоўнай вуліцы далучаецца вулачка Маршалка Пілсудскага — загуменная. Тапанімічны польскі космас: у цэнтры сакрум, на загуменні — прафанум...

Два кіламетры ад Меня рэчка Нурэц, па ёй вузкі мост у вёску Карп, адтуль два кіламетры ў згаданую напачатку Рудку і некалькі чарговых кіламетраў да вёсак Гродзіскай гміны. Першай з іх Малышчын. Манаграфія Гродзіскай гміны аўтарства Тамаша Яшчалта адводзіць мясцовасці шмат месца, аднак большасць інфармацыі запоўненая прозвішчамі ўласнікаў вёскі з 1505 года да Другой сусветнай вайны; гэта мне крыху нагадвае чытаныя ў цэрквах у калядны перыяд евангельскія радаслоўныя, дзе вялікая форма, у якой мала зместу. Аўтар падае меркаванне, што назва вёскі выводзіцца ад персоніма Малышка. Да таго інфармацыя, што ў Малышчыне ў 1921 годзе было дванаццаць хат, у якіх пражывалі 93 асобы: 83 каталікі і 10 праваслаўных; у сярэднім выпадала па восем душ у хаце. Магчыма, што да прыходу сюды Першай сусветнай вайны праваслаўных у вёсцы было больш, можа нават значна, але іх высмактала адсюль бежанства.

Па-суседску з Малышчынам вёска Чаі, якой апісанне ў манаграфіі таксама запоўнена галоўным чынам рознымі прозвішчамі. Яшчэ дзвесце гадоў таму вёска гэтая называлася Чахі, гэтак жа як і Чахі-Арлянскія ў Дубіцкай гміне ды Чахі-Забалотныя ў Арлянскай. У 1921 годзе ў Чаях пражывалі выключна каталікі.

У Чаі я не заглядаў, а з Малышчына накіраваўся ў напрамку Карыцін. У Малышчыне скончыўся мне асфальт, а пачалася жвіроўка. Але гэта незвычайная жвіроўка — яна густа „аздоблена" выбоінамі, якія стваралі там надта рэгулярную матрыцу, быццам тыя выбоіны вырабіла нейкая спецыяльная машына паводле індустрыяльнага дызайну. Ездзіць па такой дарозе магчыма; я, аднак, прайшоўся па гэтым спецадрэзку пешшу.

Пра Карыціны гісторыку таксама не ўдалося знайсці амаль нічога, апрача некалькіх прозвішчаў. І ў самую вёску я таксама не заглядаў, прайшоўшы побач лесу на дарогу ў напрамку Гродзіска, таксама жвіровую, толькі амаль без выбоін. І неяк дайшоў-даехаў гэтай дарогай да Казлова.

Гісторыя Казлова гэта таксама прозвішчы ўласнікаў, пачынаючы з 1434 года; значыць гэта вельмі даўняя вёска. З пачатку XVIII стагоддзя вёска была ў складзе ўніяцкага прыхода ў Чорнай-Царкоўнай, а раней — верагодна ў такім жа праваслаўным. У 1921 годзе ў вёсцы пражывала 141 асоба: 74 палякаў і 67 беларусаў, а паводле іншага размеркавання — 41 каталік і сто праваслаўных. Які быў грамадскі краявід вёскі ў царскі час — гродзіская манаграфія не падае.

З Казлова толькі тры кіламетры ў Гродзіск. У гродзіскім ландшафце два акцэнты: касцёл і царква. Касцёл адносна новы, затое царква з царскага часу. Царква акурат у працэсе „лінькі": адна палова яе, са званіцай, мае новую абліцоўку, другая палова, з галоўным нефам, чакае яшчэ новага вонкавага дэкору.

Паміж гэтымі двума храмамі яшчэ нядаўна стаяў трэці — колішняя ўніяцкая царква з асобнай званіцай. Спадзяваўся я яе зноў пабачыць, але па ёй засталося пустое па сутнасці месца. Даўні храм вывезены ў скансэн у згаданыя Карыціны. На пляцы, дзе ён стаяў, цяпер фігура Андрэя Баболі.

Выбіраючыся ў падарожжа, сачыў я за прагнозамі надвор'я, так падбіраючы тэрмін вандроўкі, каб яе напрамак супадаў з напрамкам ветру, каб вецер крыху выручаў мяне, каб даваў мне дадатковую цягу для веласіпеда. І спачатку ўсё складвалася паводле майго спадзявання. Пакуль быў асфальт на адкрытай прасторы. А вось на тэрыторыі Гродзіскай гміны мае ўмовы падарожнічання памяняліся. У лесе вецер не дапамагаў мне, а жвіровыя дарогі, толькі лёгка кранутыя марозам, моцна тармазілі мой веласіпед. Мае рэсурсы, так цягавыя, як і часавыя, сталі скарачацца хутчэй, чым я прадбачыў. Ахапіла мяне трывога, ці ўспею на поезд з Чаромхі ў Беласток; у Кляпачах удалося, а ў Чаромсе магло не выйсці. Шчасліўенька, летась пасяліліся ў Чорнай-Вялікай спадарства Марыя і Віталь Луба, на бацькаўшчыне спадара Віталя. У іх пакінуў я свой байк, вярнуўшыся ў Беласток аўтобусам з Дзядковіч.

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Царква ў Гродзіску




Фігура Андрэя Баболі



# Рэпарцёрскія вандроўкі

Мне давялося быць з „Нівай" з самага яе пачатку, па сутнасці безупынна, бо калі нават здаралася бываць у малой чужыне — як гэта назву ў апазіцыі да папулярнай цяпер малой айчыны — дык завітваючы ў бацькоўскі дом, дзе „Ніва" была заўсёды, заўсёды з цікавасцю заглядаў на яе старонкі. І, здавалася б, павінен я шмат ведаць пра яе мінулае, пра яе лятучых па нашым старонні журналістаў. Рональд Рэйган быў калісь сказаў, што ўрад падобны на дзіця — просты стрававод, з вялікім апетытам у пачатку і бессэнсоўнасцю на канцы. Тое ж самае можна парафразаваць і пра памяць, якую час паступова расцярушвае і ў ёй астаюцца адно ўсё меншыя чарапкі ад мінулага. Усё ж такі ўдалося мне крыху іх сабраць, у надта няпоўнай колькасці, да таго ж і ў надта суб'ектыўным падборы.

Здаецца мне, што найбольш з ліку штатных журналістаў „Нівы" пабываў у народзе Віктар Рудчык. Мяне калісь хваляваў ягоны цыкл, прысвечаны пачатку сапраўднай вайны ў нашым старонні, а цыкл той называўся „Буг у агні". Віктар Рудчык у свой час з'ездзіў Пабужжа ад Сямятыч аж за Драгічын, падрабязна запісваючы ўспаміны жывых тады сведак ваенных падзей на нашым адрэзку г.зв. Лініі Молатава. Ездзіў ён таксама ў Савецкі Саюз дзеля запісу ўспамінаў былых чырвонаармейцаў, якім удалося выжыць бязлітасны пачатак вайны. Ды не толькі гэтай тэмай займаўся Віктар Рудчык, бо ж калі гартаю тыя асколкі сваёй памяці, дык мне здаецца, што ён заўсёды быў у дарозе, у народзе.

Мне зараз часта прыходзіцца спасылацца на Міколу Гайдука. Мне складана цяпер меркаваць, што было галоўнай мэтай ягоных вандровак; магчыма, што захаванне народнай нашай спадчыны, запіс фальклору — песень і легенд. І хіба прынагодна Мікола Гайдук пачаў пісаць ніўскі даведнік пра нашы мясцовасці, цыкл матэрыялаў, які назваў „Краязнаўчым слоўнікам". На вялікі жаль, той цыкл, які распачаў у алфавітным парадку, завяршыў толькі на чацвёртай літары нашай версіі кірыліцы. Складана мне здагадвацца, чаму так нямнога — магчыма, што вычарпаў ён свае любімыя тэмы: яцвягаў і валынскіх князёў.

Ездзілі ў народ і іншыя ніўскія журналісты. Малодшаму пакаленню нашых чытачоў можа паказацца, што Сакрат Яновіч толькі сядзеў у Крынках, а раней у Беластоку, і толькі там запісваў свае назіранні нашых тутэйшых змаганняў са сваёй нацыянальнай свядомасцю. Але гэта не ўся праўда пра яго. Быў час, у 1960-х гадах, калі Сакрат Яновіч бываў у нашай глыбінцы і да тадышняй рэчаіснасці ставіўся даволі задзірыста, часта хапаючы яе за калена, а то і наважваўся сягаць глыбей, за што і даставалася яму неблагая аплявуха.

Быў час, асабліва 1960-я і 1970-я гады, калі шмат матэрыялаў дасылалі ў „Ніву" карэспандэнты, але ж яны займаліся толькі сваімі невялікімі навакольнымі гарызонтамі. Дзеля больш дэталёвай інфармацыі трэба было падавацца ў глыбінку журналістам. Таму ездзілі ў народ і іншыя ніўскія рэдактары, для прыкладу: Яніна Чэрнякевіч, Васіль Баршчэўскі, Уладзімір Паўлючук ці Міхась Хмялеўскі. З малодшага пакалення трэба назваць Міру Лукшу ды Ганну Кандрацюк. Асабліва спадарыня Ганна скалясіла шмат свету і складана нават прыгадаць, дзе яна была; лепш у гэтым выпадку падумаць дзе не была, а падаецца мне, што не была яна толькі на Антарктыдзе і на Месяцы.

Расійская мудрасць гаворыць, што ўсяе гарэлкі не пераn'еш. Да гэтага можна дадаць, што і ўсіх падзей, і ўсіх да нейкай справы датычных людзей — не пералічыш. Таму ў заключэнне хачу пакаяцца перад усімі тымі нашымі журналісцкімі вандроўцамі — па абодвух баках Стыкса, — каго я тут не назваў. Выбачайце. І ўсім вам падзяка за выкананую вамі шляхетную працу.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ,**
Беласток, 26 лістапада 2016 г.

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*

# http://vershy.blogspot.com.by

Лірыка і паэзія не проста неразрыўныя паміж сабою — уласна паэзія з'яўляецца вытворнай ад лірыкі. Таму можна без перабольшання казаць, што лірычная паэзія — гэта двойчы паэзія. У гэтым можна ўпэўніцца, калі зазірнуць на сайт берасцейскага паэта Міколы Аляхновіча, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://vershy.blogspot.com.by.**

Дадзены сайт па вялікім рахунку з'яўляецца блогам, але гэта ніякім чынам не ўмаляе яго значнасці для знаёмства з вершамі Аляхновіча і ўласна яго асобай. „Родам з Піншчыны. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук. Вершы і пераклады друкаваліся ў літаратурна-мастацкіх выданнях, перыядычным друку", — вось так вельмі сціпла распавядае пра сябе паэт. Пэўна, з-за сціпласці ён не ўзгадвае пра тое, што ён — аўтар зборнікаў вершаў „Жыццёвае веры прадзіва" (2006), „Святло дарогі" (2010) і кнігі перакладаў „Такая тонкая размовы ніць" (2013). Пра гэта, як і пра тое, што з'яўляецца дацэнтам на кафедры беларускага мовазнаўства і дыялекталогіі Берасцейскага ўніверсітэта, можна даведацца толькі зазірнуўшы на сайт Саюза беларускіх пісьменнікаў. Там жа, дарэчы, можна і пабачыць партрэт паэта.

Паэтычная старонка Міколы Аляхновіча, а менавіта так называецца яго сайт, мае невялікую колькасць рубрык. Акрамя галоўнай, дзе паэт вітае наведвальнікаў сваёй паэтычнай старонкі, ёсць яшчэ „Вершы", „Пераклады" і „Гасцёўня". Выйсці на іх месцяцца як уверсе, так і з левага боку выяўлення. Таксама злева знаходзіцца выява зборніка вершаў „Жыццёвае веры прадзіва".

Рубрыка „Вершы" змяшчае ў сябе даволі значны пералік вершаваных твораў аўтарства Міколы Аляхновіча. Праўда, яе будова не зусім зразумелая. Так, каб адкрыць кожны з вершаў, трэба клікнуць на яго назву. У той жа час уверсе месціцца спасылка, якая прадугледжвае адкрыццё адразу цэлага зборніка, трэба разумець выдадзенага ў 2006 годзе, але там знаходзіцца ўсяго толькі некалькі вершаў.

Разам з тым такая акалічнасць не перашкаджае ўбачыць прываблівасць твораў паэта. „Снег на вуліцы і ў душы/ замятае сцяжынкі ўсе.../ Ты самоту-адчай заглушы,/ хай надзея ўзрасце пакрысе./ Хай забудзецца прышлае зло,/ хай сплыве, як расталы снег./ А пакуль няхай шчасця святло/ грэе нас на яве — не ў сне", — піша Аляхновіч у сваім вершы „Снег на вуліцы і ў душы", які якраз пасуе пад цяперашняе зімовае надвор'е.

У рубрыцы „Пераклады" мы можам пабачыць вершаваныя пераклады, якія зрабіў берасцейскі паэт з рускай і ўкраінскай моў. Адзін з вершаў рускага паэта XIX стагоддзя Фёдара Цютчава, дарэчы, вельмі пасуе да сітуацыі з беларускай самасвядомасцю. „Ці ўбачыш ты калі, натоўп,/ які не стаў яшчэ народам,/ прамень іскрыстае Свабоды?/ Ці блісне ён праз тло гадоў?/ Прамень той выбліснe ўгары/ І сон развее, і туманы.../ Ды боль старых, нягойных ранаў,/ Рубцы насілля, горкіх крыўд,/ Распуста, гвалт і пустата,/ Што засціць розум, сэрцам ныe, — / Хто ўсё загоіць, хто прыкрые?../ Ты, рыза чыстая Хрыста...".

А вось „Гасцёўню" на сайце Аляхновіча карыстальнікі наведваюць нячаста. Там усяго тры запісы, прычым апошні з іх змешчаны аж сем гадоў таму.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**




## Дата з Календара
Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

Стваральнік нацыянальнай музычнай школы



# 125 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы

Знакаміты беларускі хормайстар, фалькларыст, культуролаг Рыгор Шырма нарадзіўся 20 студзеня 1892 г. у вёсцы Шакуны (Пружанскага раёна). Паходзіў з сялянскай, вельмі здольнай сям'і, дзед быў бондарам і меў мянушку „Майстровіч", бацька і маці ведалі шмат песень. Любоў да песні прывілі таксама хатні настаўнік Салук і настаўнік літаратуры Пружанскай вучэльні Манцэвіч, які навёў на думку Шырму запісваць народныя творы. У Пружанах навучыўся граць на некалькіхінструментах. У 1911-1912 гг. Шырма быў слухачом настаўніцкіх курсаў у Свянцянах, дзе прайшоў сальфеджыо. Пасля курсаў настаўнічаў у Лідскім і Свянцянскім паветах (вёска Ганута, Вілейскі раён). Потым быў у Седлецкім настаўніцкім інстытуце, дзе навучыўся іграць на скрыпцы. У Яраслаўлі, куды эвакуавалі інстытут у Першую сусветную вайну, арганізаваў хор, навучыўся дырыжыраваць. У канцы вайны мабілізаваны ў армію. Пазней настаўнічаў у вёсцы Навагольская Варонежскай губерні.

У пачатку галоднага 1922 г. Шырма разам з жонкай вярнуўся на радзіму, але на месцы бацькавай хаты застаў папялішча. Усе запісы, зробленыя Шырмам да вайны, згарэлі ў Шакунах. Працаваў лесарубам у Белавежскай пушчы. Перапісваўся з дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі Браніславам Тарашкевічам (які, дарэчы, нарадзіўся ў той жа сам дзень і год як і Шырма). Дзейнічаў у Беларускім выбарчым камітэце, працаваў настаўнікам спеваў і выхавацелем інтэрната Віленскай гімназіі. Быў абраны сакратаром Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Наведваў аддаленыя раёны, дапамагаў бібліятэкам, хорам, гурткам ТБШ метадычна, чытаў лекцыі і даклады, запісваў фальклор. З 1933 г. разам з Феліксам Стацкевічам выпускаў часопіс „Летапіс ТБШ" (пазней „Беларускі летапіс"), выдаваў зборнікі беларускіх паэтаў — першыя зборнікі Максіма Танка, Міхася Васілька, Сяргея Крыўца.

У сярэдзіне 1930-х гг. актыўна працаваў як публіцыст у народнафронтаўскай „Нашай волі". Стварыў у Вільні два хоры: вучнёўскі пры беларускай гімназіі і студэнцкі пры Віленскім універсітэце. Наладжваў беларускія музычныя перадачы на польскім радыё, супрацоўнічаў з Міхасём Забэйдам-Суміцкім. Выдаў для хораў зборнікі „Беларускія народныя песні" (1929) і „Наша песня" (1938). Неадназова праследаваўся ўладамі Польшчы: быў звольнены з пасады настаўніка гімназіі, двойчы арыштоўваўся і сядзеў на лаве падсудных.

У 1940 г. арганізаваў Дзяржаўную акадэмічную капэлу БССР. У Другую сусветную вайну выступаў з канцэртамі ў вайсковых шпіталях і частках савецкай арміі. Пасля вайны працаваў з калектывам у Гродне, пасля пераехаў у Мінск. Выдаў рэпертуарны зборнік „200 беларускіх народных песень", пазней сістэматызаваў і апублікаваў у чатырох тамах плён шматгадовай працы „Беларуская народная песня". Быў ініцыятарам стварэння значных харавых і вакальна-сімфанічных твораў беларускай музыкі. Шырма — прыхільнік народных і класічных традыцый у мастацтве і літаратуры.

З 1966 г. і да канца жыцця кіраваў кампазітарскай арганізацыяй Беларусі, займаўся грамадскай працай, быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

Памёр Рыгор Шырма 23 сакавіка 1978 г. у Менску, пахаваны на сталічных Усходніх могілках. На магіле ў 1980 г. пастаўлены помнік працы скульптара Івана Міско. Імя славутага хормайстра носяць Дзяржаўная акадэмічная капэла Беларусі і Пружанская музычная школа, дзе адкрыты прысвечаны яму музей. У Менску і Гродне на дамах, дзе жыў Шырма, усталяваны памятныя шыльды.

Падрыхтаваў **Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Прыгадалася мне зіма стагоддзя

У мінулым годзе сіноптыкі прадвяшчалі марознае надвор'е са снегападам. Пачатак астранамічнай зімы не апраўдаў спадзяванняў. 21 снежня зранку неба пакрывалі хмары, дзень без замаразкаў, туманны. І хоць вернікі касцёла маліліся за «белае» Божае Нараджэнне, натура паскупілася на беласнежны пух і зімовую чароўнасць краявіду. Зайздросцілі затым католікі праваслаўным, бо перад Калядамі ў ноч 5 студзеня пачалася зіма з лютымі маразамі і снегападам. Дарожная служба і пажарнікі работы мелі хоць адбаўляй. Моцныя вятры зрывалі дахі дамоў, ламалі дрэвы, электрычныя лініі. Дзясяткі тысяч жыхароў паўднёва-заходняй часткі краіны былі абясточаны. У перыядзе лістапад-студзень замерзла 54 чалавек. У Чаромхаўскай гміне, дзякуй Богу, абышлося без трагічных падзей. Ніхто не пацярпеў. Дарожныя службы спраўляліся з задачамі. Заставалася адно захапляцца памяркоўнай для нас зімой і ўспамінаць мінулыя будні.

Прыгадалася мне зіма стагоддзя 1962/1963 гадоў. Цяжкая зіма доўжылася два месяцы. Найгорш было ў пачатках студзеня і лютага. На поўдні тэмпература спадала нават да 38 градусаў. Паслядоўна выпадаў багаты снегапад, што паралізавала дарожны і чыгуначны транспарт. Спыняліся заняткі ў школах. Абмежавана была вытворчасць на заводах па прычыне пастаянных перапынкаў у пастаўцы электраэнергіі, паліва і цяпла. У крамах не хапала прадуктаў. Людзі мерзлі. У печках спальвалі што пад руку трапілася. Не працавалі кінатэатры, музеі. Чыгуначнікі з Пагулянкі, напрыклад, на працу ў Чаромху дабіраліся на лыжах. Пастаўку хлеба і харчовых прадуктаў з Кляшчэляў падвозілі чыгуначным таварным вагонам. Я ў гэтым часе праходзіў асаблівае «баявое хрышчэнне». У лістападзе 1962 года аформіўся я на пасаду кіраўніка кінаперасоўкі ў Ваяводскім праўленні кіно. Затым у студзені і лютым 1963 года змагаўся з зімовай стыхіяй на бездарожжах Гайнаўшчыны і Бельшчыны. У лютым, напрыклад, з Беластока ў Нарву падарожжа праз гурбы снегу доўжылася пяць-шэсць гадзін. Столькі ж часу патрабавалася на праезд з Нарвы ў Гайнаўку. Найгорш было на шашы перад Ласінкай і Барысаўкай. Не хапала тэхнікі для расчысткі дарог. Адзіным паратункам для шафёра ў зімовы час была рыдлёўка. У зіму стагоддзя, у карнавале 1963 г. значыцца, у Кузаве гулялі два вяселлі. Суседка мая, Марыся Раманчук выходзіла замуж за кавалера з Чахоў-Арлянскіх, а Ніна Раманчук за беластачаніна родам з Янцэвічаў. Гэты другі жаніх дабіраўся на шлюб з Беластока ў Чаромху чыгуначным транспартам. Цягнік не змог прабіцца праз гурбы снегу ў Падбеллі. Жыхары Кошак і Дубяжына адкопвалі цягнік рыдлёўкамі. Жаніх падаўся ў Чаромху пехатою. У Рыгораўцах папрасіў дзяжурнага станцыі, каб патэлефанаваў у Чаромху і паведаміў нарачонаю, што дабіраецца пехатою. Падаслалі сані. Падабралі жаніха ў палове дарогі на чыгуначным шляху паміж Рыгораўцамі і Кляшчэлямі. А на вяселлі ў суседкі і я гуляў. З кінаперасоўкай ледзь дабраліся ў Чаромху. За Чаромхаю-Вёскай абарваліся ланцугі, якія начапіў на заднія колы шафёр, каб лягчэй было адольваць снежныя сумёты. Добра што ў час агледзеўся. Вярнуўся шафёр назад і забраў згубу. Аб непраходных дарогах да вызначаных вёсак я паведаміў кіраўнікоў у Беластоку. Такім чынам з кінаўстаноўкай мы падаваліся на санках у суседнія вёскі — Кузаву і Дабрываду. Там дэманстравалі ў мясцовых святліцах кінасеансы. Кінастужкі мянялі ў Цэнтралі абмену фільмаў у Беластоку, якая змяшчалася на вуліцы Гетманскай 10. На чаромхаўскім вакзале з кінаперасоўкай прастаялі мы амаль паўтара месяца, пакуль не расчысцілі дарог. Такая вось была зіма стагоддзя 1962/1963 года.

Уладзімір СІДАРУК

# Наш супольны сябра

У час Каляд на партале Фейсбука на сваёй пошце прачытаў я «пост» Вітальда Бачынскага, які прасіў далучыць яго да кола супольных знаёмых. З кароценькай інфармацыі я даведаўся, што адрасат пражывае на Капітаншчыне, а выходзіць з Ахрымоў. Я станоўча адклікнуўся на просьбу і папрасіў спадара Бачынскага нешта больш напісаць пра сябе. І тут жа атрымаў адказ, які ніжэй змяшчаю ў арыгінале.

*Witam serdecznie Pana, Panie Włodzimierzu ! Cieszę się, że mogę poznać tak wspaniałą osobę, jak Pan. Znam Pana z łamów NIWY. Od czasu, gdy wróciłem po wielu latach i osiedliłem się na tych terenach, jestem stałym czytelnikiem naszego tygodnika, każdy numer czytam od «doski do doski». Sam jestem zainteresowany historią tych ziem, bardzo często rozmawiam na temat tej historii ze starszymi ludźmi, ogromny żal, że tak szybko się wykruszają, odchodząc, zabierają na zawsze swoje wspomnienia, a tym samym zamykają na zawsze pewne składowe kartki historii. Panie Włodzimierzu, ja Pana znam z widzenia, miałem zaszczyt widzieć Pana parę razy w Czeremsze, mam tam trochę znajomych, moja ciotka pochodzi z Czeremchy Wsi. Mam skrytą nadzieję, że w przyszłości spotkam Pana osobiście i będę miał zaszczyt porozmawiać i osobiście zaprosić do odwiedzenia moich rodzinnych terenów. Życzę Panu zdrowia.*

З прыемнасцю чытаю такія словы. Маё шматгадовае супрацоўніцтва з «Нівай», значыцца, дае плён. Яднае чытачоў у кола верных сяброў роднага часопіса. Сябры «Нівы» — мае сябры. Гэта адна дружная сям'я!

Уладзімір СІДАРУК

# Зімой у Новым Ляўкове

Першы мой допіс пад загалоўкам «Зімой у Новым Ляўкове» можна было прачытаць у мінулагоднім 52 нумары «Нівы» (з календаром на 2017 год). Пісаў я, між іншым, пра заснежаную вёску, у якой не вельмі хто паспяшыў адгарнуць снег з тратуара. Робіць гэта яшчэ адзінкі. Зараз у некаторых дамах нікога няма. Яны пустуюць. Дзеці забралі сваіх састарэлых бацькоў да сябе ў горад. Ёсць выпадкі, што дамы стаяць пустыя, бо ранейшыя іх жыхары ўжо на могілках. На некаторых панадворках колішнія пастаянныя жыхары паяўляюцца толькі вясной і летам. Калі зімой бываюць ападкі снегу, то з тратуара няма каму замясці яго пад плот.

Набліжалася Раждаство Хрыстова і раптам усе заўважылі, што тратуар расчышчаны і можна па ім ісці ў Старое Ляўкова, у царкву. Зрабіў гэта малады гаспадар з Новага Ляўкова Пётр Стоцкі пры дапамозе трактара і начэпленага да яго снежнага плуга. Гэта адзін, а ёсць яшчэ і другі такі выпадак. Засыпаную снегам гравійку, якая вядзе ад вёскі на калёнію да Скепкаў і далей да шырокавяднай агратурыстычнай гаспадаркі «Бора-здруй» Барыса і Людмілы Казлоўскіх расчысціў Віталь Скепка якраз з тае калёніі. Кожныя 100 метраў адгарнуў ён снег далей на абочыны дарогі, каб аўтамабілі маглі размінуцца. Вось такія пахвальныя прыклады. Пра такіх мужчын трэба пісаць. Яна зрабілі дабро, не спадзеючыся чыесьці пахвалы і падзякі.

А вось павятовая дарога № 1635В цераз вёску Новае Ляўкова. На асфальтавай маставой моцна ўбіты снег ды сям-там блішчучы на сонцы лёд. Па ёй ехаць вельмі небяспечна. Паспрабаваў я ехаць на ровары, пакаўзнуўся і хутка пакінуў свой намер язды. Збоку дарогі па пухкім снезе ішла знаёмая мне жанчына. Яна, а як жа, спытала, чаму я не еду, а вяду ровар. «Вельмі ж слізка, — адказаў я, — баюся». «Ты начальнік, — сказала яна, — і як дбаеш пра дарогі». Чаму яна назвала мяне начальнікам, не ведаю. Я солтыс Новага Ляўкова і гмінны радны. Калі я ўжо начальнік, як называе мяне Марыя Рэент з Новага Ляўкова, дык патэлефаную ў Павятовае праўленне дарог у Гайнаўцы і папрашу, каб неадкладна пасыпалі дарогу пяском.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# 22.01 — 28.01

**(22.03. — 20.04.)** Спадзявайся аддзякі за свае старанні, дабрыню і ахвярнасць. 27.01. дасканалы момант на імпрэзы, паездкі і кампанейскія сустрэчы. Адчуеш голас крыві рушыць на любоўныя паляванні. Калі ты шэф, рашуча прывядзі да парадку падначаленых. Вядзі больш арганізаваны стыль жыцця. Будзе нагода падзарабіць, даўжнікоў таксама рушыць сумленне. Энергію накіруй унутр сябе, раздумвай. Пі вітамін С.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час, толькі не азірайся за сябе. Дагаджай сваёй палавіны. Пераможаш слабасці і абмежаванні. 26-29.01. хтось сцяха, каб ты быў кампаньёнам на свяце або... у судзе. Варта будзе пад'есці штосьці больш каларыйнае, каб падмацавацца, але ў меру. 23-27.01. могуць моцна пахіснуцца твае ашчаднасці. 27.01. магчымыя праблемы на працы; канкурэнцыя можа табе выкінуць нейкую штучку.

**(22.05. — 22.06.)** 27.01. прабудзяцца ў табе нейкія новыя захапленні. 28.01. урэшце цябе ўбачаць і ўспрымуць твой аўтарытэт. Але 25.01. пераканаешся, што ты не з'яўляешся беспамылковым. Ад 28.01. атрымаеш ад зорак вялікую долю энергіі і жыццярадаснасці. Аднак, з-за Сатурна... пахудзее твой кашалёк. Затое можаш з поспехам пашукаць новую работу.

**(23.06. — 23.07.)** Самотны Раку, не аставайся толькі пры марах, дзейнічай! Выкажыся ініцыятывай, калі трэба, проста папрасі нумар тэлефона. Асабліва 22-24.01 можаш знайсці ціхае ўтульнае месца для амураў. Удала і ў інтарэсах, не выключай мабільніка таксама пасля дня работы. 28.01. асцерагайся гвалтоўных, імпульсіўных рэакцый.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш мець мноства запрашэнняў да супольнай гульні і святкавання. Не адмаўляйся! Каля 27.01. пачнецца добры час на пошукі працы. Асцярожна пры наладжванні спраў у банках і ва ўстановах. Людзі не будуць мілыя, але ты захавай на твары ўсмешку. Не лячыся зёлкамі, інгаляцыямі і лекамі без рэцэпта. Будзь цярплівы!

**(24.08. — 23.09.)** Талковаі разважлівавыдумаеш штосьці цікавае і карыснае. 22-24.01. будзе пабуджаная твая ўява; можаш стварыць штосьці прыгожае. Зрабі сам сабе прыемнасць. Твае выбары будуць разумныя і здабудзеш для сябе найбольшы кавалак торта. Добры час для наладжвання новых бізнесаўскіх кантактаў.

**(24.09. — 23.10.)** Добра скалькулюй усе кошты. 22.01. можаш карысна інвеставаць грошы. З 26.01. твае рашэнні могуць выклікаць рознагалоссе. Не дзялі воласа на чатыры часткі сярод блізкіх асоб. 28.01. вернецца табе найлепшы настрой. Хаця за грошы, належныя табе, можа прыйсціся пазмагацца ў судзе ці іншай установе; калі праўда на тваім баку — выйграеш. Адпачывай на прыродзе, не бойся холаду.

**(24.10. — 22.11.)** 22-24.01. здабудзеш ключавыя інфармацыі. Выпрашыш усё па-свойму. Адпачывай і цешся. Міла ў пары і сярод радні. Можаш пазнаёміцца з новымі людзьмі, з'ездзіць у падарожжа. Не ладзь інтарэсаў з падазронымі людзьмі, дакладна падпісвай дамовы, высвятляй сумненні. 27.01. пераканаешся, што страх можа быць благім дарадчыкам.

**(23.11. — 22.12.)** 22-26.01. больш абавязкаў, але затым і стрэсаў. 27.01. не мусіш шукаць сабе вясёлай кампаніі — сама цябе яна знойдзе. Старайся не наступіць нікому на мазоль. Стральцы без пары хоць добра будуць высыпацца. У краму хадзі з кімсьці, што не страціць галавы на від поўных паліц. Дбай аб вільготнасць паветра дома.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш поўны энергіі і ўпэўненасці. Не нервуйся на запас, цешся светам і добрымі нагодамі. Вельмі дбай аб каханую асобу. Адкрывай пачуцці, гавары пра іх гучна. На працы можаш адкрываць новыя шляхі. Можаш нават стаць на сваім. Твая жылка да інтарэсаў паможа табе здабыць немалую суму. Дома зрабі больш святла.

**(21.01. — 19.02.)** 22-24.01. акажаш добрае ўражанне на іншых. У час маладзіка Месяца 27.01. услухайся ў сябе, адкрыеш у сабе свой сапраўдны твар і дарогу. Не шкадуй на дабрачыннасць. Дома ацані штодзённыя рытуалы. Дамовы падпісвай хутчэй пасля 27.01. З кожным днём будзе ўсё лепш і лепш.

**(20.02. — 21.03.)** Твае старыя памылкі будуць забытыя. 22-24.01. адзавецца да цябе хтосьці, аб кім ты ўжо амаль забыўся. Новыя сяброўствы, прапановы, нечаканае павышэнне. Але калі хочаш штось здабыць, усё ж трэба будзе пастарацца. Лепш заставайся дома, бо ў падарожжы магчымыя прыкрыя сюрпрызы.

Агата АРЛЯНСКАЯ

# Адгаданка

1. горад, заснаваны Янам Клемэнсам Браніцкім у 1749 годзе, 2. звараны круглы камяк з дранай бульбы і мукі, 3. месяц з Днём жанчын, 4. тысячная частка грама, 5. чарнобыльская рака, 6. сын пані, 7. узвышша, з якога выцякаюць Дзвіна, Дняпро і Волга.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 1 нумара**

Азімут, дзень, пень, сель, ялец.

**Рашэнне:**
**Студзень мяце — ліпень залье.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (70)

На інтэрнэтным сайце, які высвятляў актуальнае надвор’е ў Вэтлах, паставілі параду родам з народнай аптэкі: «Сакрэт мужчынскага здароўя». Карацей кажучы, мужыкам, каб яны ўвесь час знаходзіліся на ходу і не мерзлі, раілі есці варэнікі з макам. Іншая народная парада датычыла лекавання меланхоліі. Каб пазбегнуць такой мала крутой нямогласці, аўтары сайта раілі звярнуцца з сардэчнай малітвай да святога прарока Малахіі. Усё гэта прамовіла як падрыхтоўка да Вадохрышча. Гэтае царкоўнае свята ў Вэтлах лічаць самым прэстыжным і гарачым фэстам.

— Прыязджайце да нас на Вадохрышча! — запрашалі мяне на кожным кроку.

— А што тут цікавага? — я спрабавала рассакрэціць прычыны папулярнасці свята.

Да гэтай пары Вадохрышча асацыявалася мне з поснай вячэрай, свянцонай вадой і лютым марозам, калі трэба адзяваць кажух і валёнкі. Вэтлаўскае запрашэнне на кіламетр пахла летам. Невыпадкова. Якраз на Вадохрышча тут ладзяць купанне ў асвечаных праламках на Прыпяці. Рытуал, які выклікае страсці і ўсцешны гул грамады, лічаць лячэбным і народным. Апошняя справа здалася моцна падазронай:

— Ці гэта мясцовая традыцыя? — пытаю ў царкоўнага старасты Міхайлы Мартынюка.

— Мясцовая, — чую ў адказ, — тут здавён-даўна так заведзена, што купаюцца на *Крышчэніе*

— А ці купаліся ў часы вашай маладасці?

— Тады не было як, — кажа Міхайла. — Тады ўсе царкоўныя святы забараняліся...

— А вашы бацькі хадзілі купацца на Вадохрышча? — цягну «традыцыю».

— Не чуў пра такое, — ужо сумняваецца Міхайла.

Як аказалася ў ходзе размоў, «традыцыя» прыйшла з Пінска, дзе адбываюцца падобныя купанні ў асвечаных духавенствам ледзяных палонках. А іх папулярнасць падбілі расейскія тэлеканалы, якія, нягледзячы на вайну, абажаюць на Палессі.

Праўда, пра апошнюю страсць лепш не гаварыць уголас, гэта не патрыятычна.

* * *

Праўда, у святкаванні Вадохрышча найбольш цікавіў мяне мужчынскі ўхіл свята. Гэта небывалае на Палессі. Раней, калі я заходзіла ў любую царкву — у горадзе ці ў вёсцы — там выстойвалі амаль адны жанчыны. Адзін малады святар, калі спытала я пра папулярнасць св. Параскевы, якая з’яўляецца нябеснай заступніцай кожнай другой палескай царквы, адказаў мне жартам:

— Параскева — нябесная апякунка тых, хто тчэ і вышывае. Нашы парафіянкі ўсе таленавітыя рукадзельніцы. Кожную нядзелю стаяць на багаслужбе.

— А дзе мужчыны? Яны атэісты?

— Зусім не, — здзівіўся святар, — у нас лічаць, што як адна асоба пойдзе з хаты ў царкву, дык хопіць. Яна памоліцца за апошніх. У нас яшчэ так няма як у вас, што ідуць разам на багаслужбу мужык і жонка.

Вэтлаўскае Вадохрышча, у адрозненні ад іншых царкоўных святаў, хоць другую частку складалі жанчыны, здалося надзвычай мужчынскім. Праўда, прыгожы пол больш чым суцэльную намоленую грамаду напамінаў узбуджаную публіку. На здымках, якія пабачыла я ў мясцовым сельсавеце, запамяталіся хмары замерзлай у марозным паветры пары, якая лунала па-над галовамі грамады. Не менш уразілі татуіроўкі ўдзельнікаў святых абрадаў. У недалёкім манастыры на від такіх крутых аздобаў жыва нерваваліся і нават крычалі:

— Праз гэтыя малюнкі, вас не прапусцяць у царства нябеснае!

Мая ўвага для надвор’я не была выпадковай. У Вэтлах лічаць, што калі больш мароз, тады больш гарачае свята. Прагноз на сёлетняе Вадохрышча абяцаў 10 градусаў марозу.



Прыпяць у Вэтлах



Вадохрышча ў Кудаку (фота poranny.pl)

* * *

Праўда, на Палессі ўсе гэтыя лячэбныя парады на сайтах лічаць чыстым фальклорам. Калі прыцісне бяда, тубыльцы ідуць за парадай да бабкі. Адначасова вераць у лячэбную моц зелля толькі з добрай рукі. Ірына Ігнаценка, нястомная даследчыца палескай народнай медыцыны, з дакладнасцю называе ўсе этапы збірання зёлак.

У кніжцы «Народная медыцына і магія ўкраінцаў» названы рэцэпты на пабуджэнне мужчынскай патэнцыі. Вылечыць з клапатлівае хваробы можа паўсюдная расліна ***Potentilla erecta***, якую ў нас называюць «курыным зеллем». У гэтай непрыкметнай расліны надзвычай лячэбны корань, з-за гэтага ва Украіне лякарства часта называюць «казацкім жэньшэнем». Расліну трэба выкапаць у час, калі месяц у поўні, у апошняй фазе.

Дасведчаная шаптуха, калі дабывае корань з зямлі, павінна сказаць адпаведную замову. Яна павінна глядзець, каб не пашкодзіць каранёвай сістэме і даць магчымасць адраджэнню расліны. Часта на месца, адкуль дабывае корань, кладзе кавалачак хлеба і соль. Гэта сімвалічная падзяка маці-зямлі за дар.

Корань капаюць толькі два разы ў год. Яго спачатку трэба высушыць, а пасля змалоць на муку. Каб доза, якая складае адну лыжачку для гарбаты ўдзень, спрацавала, парашок неабходна запіць сырым яйкам або закусіць лыжкай каровінага масла.

З кораня ***Potentilla erecta*** ужо ў старажытныя часы рабілі лячэбны настой. Лякарства выраблялі пры манастырах, прымяняючы адпаведныя малітвы. На Палессі таксама ведаюць такі настой, хоць замест малітваў тут прымяняюць адпаведныя замовы.

Корань дабываюць, як у першым рэцэпце, пры поўні месяца. Пасля яго палошчуць і заліваюць алкаголем. Найлепшая дзеля гэтай мікстуры самагонка. Цудоўны эліксір атрымоўваюць пасля 9 месяцаў. Пасля напой трэба спажываць з крайняй асцярожнасцю — лячэбная доза ўсяго 50 грам у суткі. Той, хто перабольшыць порцыю, — як папярэджвалі над Прыпяццю, — будзе героем не адной чуткі і легенды.



На сайце інфармавалі як, паводле народнага календара, па *крашчэнскіх* маразах прадбачыць надвор’е на наступаючы сакавік. Увесь гэты каларыт застаўляў думаць пра веснавое разводдзе, па якім моцна сумуюць тубыльцы. Таксама сучасная «традыцыя» купання ў ледзяных палонках больш праяўляла сум па паўнаводнай рэчцы, якая ў натуральны спосаб прымушала мужчын быць крутымі і адважнымі.

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960 04